ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 6 (2356) 10 лютага 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 30 рублёў.

## НОВЫ СПІКЕР ПАРЛАМЕНТА БЕЛАРУСІ

**Пасля адклікання Станіслава Шушкевіча новым Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пасля галасавання ў два туры быў абраны Мячэслаў Грыб, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю. Апошняе дало падставу парламенцкай апазіцыі выказаць з''едлівае здзіўленне: чаму Шушкевіча, паставіўшы ў віну недастатковы кантроль за барацьбой з карупцыяй і злачыннасцю, адсунулі ад пасады спікера парламента, а Грыба, які ўзначальваў такую камісію, абралі на яго месца!**

**Вось некалькі радкоў з біяграфіі новага спікера беларускага парламента. Нарадзіўся ў верасні 1938 года ў Дзятлаўскім раёне Гродзенскай вобласці. Беларус. Прафесійны юрыст. Працаваў у розных праваахоўных органах. Быў начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкома. Генерал-лейтэнант міліцыі ў запасе. Гэта дало зноў жа падставу для сарказму з боку апазіцыі: быць цяперашняму Старшыні Вярхоўнага Савета першым генерал-губернатарам Заходняй вобласці Расійскай імперыі.**

**Але генерал здзівіў сваім імкненнем гаварыць на беларускай мове, хаця і не на такім узроўні, як інтэлектуал Шушкевіч. У сваім першым выступленні перад парламентам Мячэслаў Грыб заклікаў усіх дэпутатаў да кансалідацыі. Не абышоў сваёй увагай і апазіцыю, паабяцаўшы ёй падтрымліваць усё канструктыўнае і разумнае, што будзе прапанавана з яе боку, і адкідаць тое, што супярэчыць закону. М.Грыб зрабіў заяву, у якой падкрэсліў, што знешнепалітычны курс нашай дзяржавы з выбраннем новага Старшыні парламента не будзе зменены. Гэта мір, дружба з усімі дзяржавамі, з усімі народамі, прызнанне існуючых межаў.**



*ЛЁСЫ ЗЕМЛЯКОЎ*



## УНУЧКА СЛАВУТАГА ПАДАРОЖНІКА

**Прозвішча Ельскіх добра вядомае на Беларусі, у сумежных дзяржавах. І болей таго -- вандроўныя сцежкі аднаго з Ельскіх, Канстанціна Міхайлавіча, прывялі ў Лацінскую Амерыку. А славуты даследчык нашай мінуўшчыны Аляксандр Ельскі, а кампазітар Ельскі... Што адметна, у знакамітых прашчураў былі і годныя іх спадкаемцы.**

**Сярод імёнаў нашчадкаў Ельскіх на Беларусі, мусіць, ніколі не згадвалася Соф'я Іванаўна Ельская, дачка сына Канстанціна Ельскага -- Івана (Казіміра) Канстанцінавіча (1862--1930). Але ж аб усім па парадку...**

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ:**

## "Я ЗРАБІЎ БОЛЬШ, ЧЫМ МОГ, АЛЕ МЕНШ, ЧЫМ ХАЦЕЎ..."

**У галасаванні, якое вызначала палітычную кар'еру Станіслава Шушкевіча, цяпер ужо былы Старшыня Вярхоўнага Савета не ўдзельнічаў. Паехаўшы на дачу, даць інтэрв'ю Станіслаў Станіслававіч згадзіўся, але паставіў адну ўмову: "сустрэнемся праз пару-тройку дзянькоў. Я ж жывы чалавек, і не трэба, каб мой цяперашні эмацыянальны стан адбіўся на гутарцы. Трэба супакоіцца, пра многае падумаць..."**

**Шушкевіча мы знайшлі на яго дачы. Былі тут упершыню, і таму, вядома, да ўсяго ўважліва прыглядаліся. Чатыры з паловай соткі. Садовае таварыства універсітэта, дзе ўсе адзін аднаго ведаюць. Першы ж дачнік паказаў "сядзібу" Шушкевіча. Нічога асаблівага ў ёй няма. На фоне цяперашніх асабнякоў дом Шушкевіча выглядаў быццам сыраежка побач з баравікамі. Ні цэглы, ні зруба. Бетон. Аглапарыт, унутры вагонка.**

-- Ніякіх іншых "маёнткаў" у мяне няма, -- расказвае гаспадар. -- У свой час Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў рашэнне выдзеліць мне, як кіраўніку парламента, дачу ў Драздах. Але ў ёй ні я, ні мая сям'я не жылі ні аднаго дня. Так, яна быццам бы лічылася за мной, але выкарыстоўвалася толькі для афіцыйных прыёмаў.

Цяпер пра РБУ. У гэтым доме амаль усё зроблена маімі ўласнымі рукамі. Але любому нармальнаму чалавеку зразумела: калі патрэбны зварачныя работы, тынкоўка, без майстроў не абысціся. Я тут прыбудаваў гараж. Вядома, трэба быў бетон. Дарэчы, да ведама тых, хто папракаў мяне ў асабістай нясціпнасці: гаража ў горадзе ў Шушкевіча няма. Кааператыў, членам якога я з'яўляюся, вядзе будоўлю ўжо гадоў шэсць. І канца ёй не відаць.

Пра грошы. Няма ніводнага рахунку, які б я не аплаціў. Калі нехта думае, што тут усё робяць за капейкі, клянуся: гэта не так. Уся мая зарплата за апошнія гады "пайшла" на дачу. Жылі на грошы жонкі.

Пра маю былую кватэру на вуліцы Адоеўскага, у якой цяпер быццам бы жыве цешча. У тую двухпакаёвую кватэру ва універсітэцкім доме пасля майго пераезду на вуліцу Дразда ўсяліўся універсітэцкі супрацоўнік Кляўчэня. Мой цесць -- удзельнік Сталінградскай бітвы, двойчы перанёс інсульт. Цешча капала акопы пад Ленінградам. У яе хворыя ныркі.

Зразумела, што мая жонка хацела быць бліжэй да бацькоў. З Чыжоўкі яны пераехалі ў наш дом, дарэчы, страціўшы пры гэтым абмене шэсць квадратных метраў. Цяпер хоць сэрца спакойнае за сына, ёсць каму забіраць яго са школы.

-- **Але тады, Станіслаў Станіслававіч, чаму аб усім гэтым вы гаворыце толькі сёння! Чаму вы маўчалі ў тыя чорныя для вас дні!**

-- Ды таму, што я выхаваны інакш, чым кіраўнік Часовай парламенцкай камісіі па барацьбе з карупцыяй Аляксандр Лукашэнка. Мяне ўсё жыццё вучылі: ёсць прэзумпцыя невінаватасці, і калі хтосьці каго-небудзь абвінавачвае, то робіцца гэта дакументальна. Факты старанна правяраюцца, а не так, што нехта, маўляў, недзе сказаў. І таму ўступаць у дыскусію аб гэтым я лічу ніжэй сваёй годнасці. Тады, калі вы памятаеце, я сказаў на сесіі: маім дзецям за мяне чырванець не прыйдзецца. І палічыў, што гэтага дастаткова.

-- **Скажыце, калі б машына часу вярнула вас у тую пару, калі вы былі прарэктарам БДУ, займаліся навукай і не думалі аб палітыцы, што б вы зрабілі!**

-- Пайшоў бы па тым жа шляху. Я многае хацеў зрабіць, але былі рэальныя сітуацыі, выйсці за рамкі якіх аказалася немагчымым. Мая галоўная мэта заключалася ў стварэнні беларускай дзяржаўнасці, у з'яўленні ў Еўропе суверэннай цывілізаванай дзяржавы Беларусь. Мне вельмі хацелася, каб наш парламент быў дэмакратычным, не такім палярызаваным, крыклівым, супярэчлівым, каб ён стаў цэнтрысцкім. Ад гэтага, я ўпэўнены, выйгралі б усе. Але гэта, на жаль, мне не ўдалося. Новы парламент, я ўпэўнены, такім ужо ні за што не будзе.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ЗАЯВА ПРЭМ'ЕРА

**"Рэформы ў Беларусі будуць працягвацца, -- сказаў В.Кебіч, выступаючы на семінары "Аб асноўных напрамках выхаду з крызіснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, паскарэння рыначных рэформ і неадкладных задачах выканкомаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў". -- Пры гэтым наша палітыка па-ранейшаму будзе нацэлена на паглыбленне эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. Але рэальна гэта адбудзецца толькі пасля аб'яднання грашовых сістэм, устанаўлення прымальнага для Беларусі курсу абмену валюты. Патрабуе рашэння і пытанне ўраўнаважвання цэн на энерганосьбіты.**

**Старшыня Савета Міністраў катэгарычна адхіліў абвінавачанні БНФ у адрас урада ў "згортванні суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь". Па яго словах, "шлях на паглыбленне інтэграцыі з Расіяй -- гэта шлях да выратавання рэспублікі, яе эканомікі, нацыянальных інтарэсаў".**

*ПАЗІЦЫІ ПАРТЫЙ*

## ЧЫЯ ЦЯПЕР УЛАДА?

**Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада прадракае, што ў найбліжэйшай будучыні ў нас адбудзецца абмежаванне грамадзянскіх, палітычных, сацыяльных і культурных правоў чалавека, правоў народа. БСДГ выступіла з заявай, у якой падзеі 25 і 26 студзеня 1994 года, калі былі вызвалены ад займаемых пасад міністр унутраных спраў Ягораў і старшыня КДБ Шыркоўскі, адкліканы Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, "надзвычай небяспечнымі ў жыцці нашай краіны".**

**БСДГ лічыць, што цяпер у рэспубліцы ўсталявалася "ўлада клікі", што "камуністычна-мафіёзная групоўка прыбрала з дарогі тых, хто перашкаджаў ёй абагачацца за кошт народа, хто шмат ведае пра злоўжыванні членаў урада, наменклатурных дэпутатаў, кіраўнікоў і чыноўнікаў мясцовых органаў улады".**

**Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць падзеі двух дзён студзеня называе "палітычным спектаклем", у выніку якога адбыўся "ціхі путч". БХДЗ уважае, што беларускі народ мусіць зрабіць належныя высновы. У прыватнасці, патрабаваць адстаўкі ўрада і Вярхоўнага Савета, перадачы ўлады кааліцыйнаму часоваму ўраду.**

*ПАМЯТНЫ ЗНАК*

**Да знамянальнай даты -- 50-годдзя вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў -- Мінскі эксперыментальны завод імя Гастэлы рыхтуецца выпусціць памятны знак. Напярэдадні юбілею ён будзе прымацаваны да грудзей ветэранаў Вялікай Айчыннай. Знак закліканы нагадваць людзям, як дорага дастаецца перамога і як неабходна захоўваць і ўмацоўваць мір у наш неспакойны час.**




**НА ЗДЫМКУ: памятны знак у гонар вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

*ПРОЦІСТАЯННЕ*

## БЕСТЭРМІНОВАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ

**2 лютага ў Мінску адбылося пасяджэнне савета рэспубліканскага стачачнага камітэта. Разгледжана пытанне аб правядзенні ўсебеларускай палітычнай стачкі. Як заявіў карэспандэнту Белінфарма лідэр Свабоднага прафсаюза Беларусі Генадзь Быкаў, пры 20 "за" і адным устрымаўшымся савет прыняў рашэнне аб аб"яўленні з шасці гадзін 15 лютага бестэрміновай палітычнай стачкі. Паводле слоў Быкава, выстаўлены тры патрабаванні: адстаўка ўрада, фарміраванне кааліцыйнага ўрада народнага даверу і датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Рэспубліканскі стачком мае намер таксама вывесці бастуючых 15 лютага на плошчу Незалежнасці. "Гэты дзень пакажа, наколькі людзям надакучыла існуючае становішча".**

**У той жа дзень Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслаў Грыб даў даручэнне выконваючаму абавязкі старшыні КДБ Беларусі Генадзю Лавіцкаму разабрацца з рашэннем рэспубліканскага стачачнага камітэта, у якім, на яго думку, змяшчаецца заклік да насільнага звяржэння ўлады. Спікер парламента лічыць, што "калі ў гэтым пытанні ёсць крымінал, то сумесна з пракуратурай павінна быць узбуджана крымінальная справа і праведзена расследаванне".**

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*



**Доследна-магнітны дэтэктар -- так называецца новы прыбор, распрацаваны нядаўна ў аддзеле трыбадыягностыкі Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН Беларусі. Гэта вынік сумеснага дагавора аб супрацоўніцтве вучоных Вялікабрытаніі, Паўднёвай Карэі і былога СССР.**

**Доследна-магнітны дэтэктар можа быць выкарыстаны як у лабараторных умовах, так і на станцыях тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў, дзе дазволіць на ранняй стадыі прагназіраваць катастрафічны знос і выхад са строю вузлоў і дэталей рухавіка на падставе аналізу канцэнтрацыі часцінак зносу ў пробах масла.**

**НА ЗДЫМКУ: загадчык аддзела трыбадыягностыкі Валерый КОНЧЫЦ і навуковы супрацоўнік Любоў МАРКАВА праводзяць аналіз пробы масла.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

420 МІЛЬЁНАЎ рублёў выдзеліў італьянскі ўрад на рэканструкцыю дамбы каля вёскі Глініца, што ў Мазырскім раёне. Летась у час паводкі рака Уборць прарвала дамбу і затапіла больш 1 тысячы гектараў пасеваў.

РЭЗКА ўзрасла колькасць парушэнняў граніцы і спробаў правезці кантрабанду. Усяго летась затрыманы 1 443 парушальнікі. З іх 942 -- прадстаўнікі афраазіяцкага рэгіёна, астатнія -- грамадзяне Беларусі і краін СНД. Выяўлена кантрабандных тавараў на суму больш за 1 мільярд рублёў, а таксама больш тысячы адзінак агнястрэльнай зброі.

КОЖНЫ васьмідзесяты ў беларускім войску парушыў закон і прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Кожнае пятае злачынства вызначаецца як цяжкае. Такія вынікі года 1993. Летась на лаву падсудных селі 76 старшых афіцэраў.

БЕЛАРУСЬ -- першая з рэспублік былога Саюза, якая ўключана ў Карпаратыўную праграму Савета па міжнароднай дыпламатыі, цэнтр якога ў Вашынгтоне. Паводле дасягнутага паміж Саветам і Рэспублікай Беларусь пагаднення прадстаўнікі нашых дзяржаўных структур будуць стажыравацца ў ЗША. У Карпаратыўнай праграме Савета прадугледжваецца ўдзел тых беларускіх спецыялістаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да палітыкі, эканомікі, міжнароднага гандлю.

СЦЭНІЧНЫЯ касцюмы, канцэртны раяль, патэфон, мноства дробных рэчаў, якія належалі народнай артыстцы СССР Ларысе Александроўскай, падарылі яе ўнукі музею гісторыі музычнай і тэатральнай культуры Беларусі, які мае адкрыцца ў Мінску. Ужо сабрана каля 4 тысяч экспанатаў для будучых экспазіцый.

НІНА СНЫТКО, настаўніца з Краснаполля, стала гераіняй дакументальнай кнігі "Настаўніца Ніна і дзеці", якая выйшла ў Токіо. Яе аўтар -- японскі прафесар Руіці Хіракава -- двойчы пабываў на паражонай радыяцыяй краснапольскай зямлі, быў госцем на вяселлі маладой настаўніцы. У сваім дакументальным нарысе ён захапляецца мужнасцю людзей, якія жывуць тут, разважае пра лёсы дзяцей у постчарнобыльскую эпоху. Кніга выйшла на японскай, англійскай і рускай мовах.

МЕМАРЫЯЛЬНАЯ дошка ўстаноўлена на доме ў Вільні, дзе да вайны жыў Рыгор Шырма. Адкрыццё было прымеркавана да 102-й гадавіны з дня нараджэння вядомага дзеяча культура Беларусі. Аўтар мемарыяльнай дошкі -- мінскі скульптар Алесь Міронччык.

*ГРАМАДСКАЯ ДУМКА*

## САМАЕ ВАЖНАЕ

**Па выніках сацыялагічнага апытання, праведзенага Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі, больш палавіны насельніцтва рэспублікі -- 53,6 працэнта -- самай важнай задачай, што стаіць перад урадам і парламентам, лічаць дасягненне павышэння жыццёвага ўзроўню. Прычым у гэтым пытанні супадаюць інтарэсы ўсіх слаёў насельніцтва.**

**Другое месца ў шэрагу прыярытэтных задач адводзіцца ўзнаўленню ранейшых гаспадарчых сувязей у рамках СНД. Гэтую думку падтрымлівае 48,4 працэнта рэспандэнтаў, асабліва інжынерна-тэхнічныя работнікі, заклапочаныя стратай шматгадовых і надзейных рынкаў збыту, а таксама ваеннаслужачыя.**

**45 працэнтаў апытаных неадкладнай задачай урада і парламента лічаць ахову інтарэсаў працоўных і забеспячэнне сацыяльнай справядлівасці. За гэта перш за ўсё выступаюць рабочыя. Трохі ўзрасла ўдзельная вага жыхароў Беларусі, што выступаюць за развіццё рынку, прыватнай уласнасці і прадпрымальніцтва: такіх налічваецца 19,4 працэнта, у асноўным гэта прадпрымальнікі і бізнесмены, а таксама моладзь ва ўзросце да 25 гадоў.**

**Ідэю ўмацавання эканамічнай і абароннай магутнасці рэспублікі падтрымліваюць 19,1 працэнта апытаных, перш за ўсё ваеннаслужачыя пенсіянеры.**

*АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ*

## ШТО ЗА АДСТАЎКАЙ С. ШУШКЕВІЧА?

На неардынарнае палітычнае здарэнне -- прымусовую адстаўку Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча адгукнуліся шматлікія выданні Беларусі і іншых краін. Танальнасць такіх публікацый, безумоўна, была неаднолькавай: ад пагрозлівага папярэджання "паўзучай камуністычнай контррэвалюцыі" да задаволенага "паў першы белавежскі зубр". Прапануем нашым чытачам, якія не маюць магчымасці атрымаць беларускую перыёдыку, вытрымкі з найбольш характэрных публікацый, якія з"явіліся адразу ж пасля падзеі.

**"ЗВЯЗДА".**

"Парламенцкая большасць прыступіла да рашучых дзеянняў. Аб"яднаўшыся, навёўшы парадак у сваіх схільных да дэзарганізаванасці шэрагах, яны нарэшце прадэманстравалі ўласную сілу. На жаль, ахвярамі палітычных баталій могуць стаць не толькі канкрэтныя асобы, але і сціплыя парасткі дэмакратыі ў беларускай дзяржаве.

Першыя ўражанні пра новага старшыню, што склаліся пасля першай жа яго прэс-канферэнцыі, -- як пра палітыка асцярожнага, стрыманага, не схільнага да імправізацый, які апіраецца на рэальную сілу і з'яўляецца толькі правадніком яе, гэтай сілы, палітычнай волі".

**"СВАБОДА".**

"Няма ніякага сумневу, што кіроўны рэжым прагне зараз актыўна і паўсюдна "закручваць гайкі" -- у грамадскім жыцьці, у эканоміцы, у галіне правоў і свабодаў. Апошнім часам ім пастаянна карцела гэта зрабіць -- аж рукі сьвярбелі. Але перашкаджаў Шушкевіч.

За 885 дзён свайго кіраваньня Станіслаў Шушкевіч мала чым дапамог дэмакратыі. Але сам факт ягонай прысутнасьці на пасадзе кіраўніка дзяржавы троху стрымліваў намэнклатуру. Яны вымушаныя былі азірацца на яго (хоць рэальнай улады ў Шушкевіча было менш, чым у любога высокапастаўленага саўмінаўскага чыноўніка)".

**"ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"**

"Гэта не пераварот, але несумненнае ўмацаванне прасаўмінаўскага і пракамуністычнага асяроддзяў, што існуюць у Вярхоўным Савеце.

Далейшае развіццё падзей не паддаецца лагічнай ацэнцы. Калі Шушкевіча выкрэсліваюць за непрыняцце рашучых мер у барацьбе са злачыннасцю, то чаму на першым плане з'яўляецца фігура старшыні Пастаяннай парламенцкай камісіі Мячэслава Грыба? Яго ж таксама можна крытыкаваць за бязмежны разгул злачыннасці, за абыякавыя адносіны да гідры карупцыі..."

**"КОМСОМОЛЬСКАЯ ПРАВДА"**

"Як ні дзіўна, але беларускі ўрад усё-такі не дапусціў украінізацыі эканомікі: па крайняй меры не беларусы ганяюцца за ўкраінскімі купонамі, а наадварот. Беларускія рынкі наваднены карабейнікамі з Заходняй і Усходняй Украіны. І не выпадкова, што менавіта прамыславікі Беларусі, стаміўшыся ад незалежнасці з яе натуралізацыяй і дэзарганізацыяй эканомікі, першымі захацелі вярнуцца ў рублёвую зону. Шушкевіч гэтую ідэю падтрымліваў, але не настолькі цвёрда, каб на яго можна было спадзявацца".

Шэраг беларускіх уплывовых газет не захацелі па гарачых слядах друкаваць уласныя каментарыі, а "абышліся" змяшчэннем інтэрв'ю: адны з С.Шушкевічам, іншыя -- М.Грыбам (мабыць, у залежнасці ад уласных палітычных прыхільнасцей). Гэта тычыцца і нелюбімай большасцю Вярхоўнага Савета "Народнай газеты", і рускамоўнай "Советской Белоруссии", і праўрадавай "Рэспублікі"...




Канструктары Мінскага навукова-даследчага прыборабудаўнічага інстытута вядуць пошук новых магчымасцей кантролю за радыеактыўнай забруджанасцю. У інстытуце ўжо распрацаваны дазіметры, экспрэс-аналізатары, радыёметры, скануючыя спектрометры. Зона выкарыстання гэтай тэхнікі вельмі шырокая: ад ужывання ў быце да прымянення ў сучасных дыягнастычных цэнтрах і перасоўных лабараторыях.

НА ЗДЫМКАХ: выпрабаванні праводзіць Міхаіл ХАРЫТОНАЎ; Георгій ШУЛЬГОВІЧ -- галоўны канструктар прафесійнага дазіметра гама-выпраменьвання; у гэтых камерах праходзіць праверку новая апаратура пры розных кліматычных умовах.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

# "Я ЗРАБІЎ БОЛЬШ, ЧЫМ МОГ, АЛЕ МЕНШ, ЧЫМ ХАЦЕЎ..."

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

-- **А калі, вы мяркуеце, адбудуцца новыя выбары?**

-- У нас жа ёсць дакумент -- заява аб паскарэнні канстытуцыйнага працэсу, у якой Вярхоўны Савет абяцаў правесці датэрміновыя выбары ў сакавіку гэтага года. А цяпер некаторыя дэпутаты кажуць: заява, маўляў, ні да чаго не абавязвае. Як можна не стрымаць слова, што публічна дадзена ўсяму народу?

-- **Вернемся да прычын адклікання вас з пасады старшыні. Многія думаюць, што афіцыйная трактоўка -- фікцыя. Якія сапраўдныя прычыны?**

-- Я не падыходжу большасці гэтага парламента. Яна не хоча будаваць новае грамадства. У большасці сваёй цяперашнія дэпутаты хочуць вярнуцца да старога. Я да гэтага часу не разумею, як мне наогул удалося стаць на чале Вярхоўнага Савета. У камуністычнай большасці ў жніўні 91-га быў фантастычны перапуд, і маё выбранне стала "вялікай выпадковасцю", а не заканамернасцю. Гэта было ўздзеяннем жнівеньскіх падзей. Я тады актыўна кантактаваў з лідэрамі саюзных рэспублік, кіраўніцтвам тады яшчэ адзінай краіны. Быў, што называецца, на вачах, і гэта адыграла сваю ролю.

На гэтай пасадзе мне было нялёгка. На мяне пастаянна аказвалі націск і левыя, і правыя. Апазіцыя БНФ, напрыклад, меркавала, што я больш за ўсё ўшчамляю яе. Не даваў слова ля мікрафона і г.д. Хоць я спыняў яе прадстаўнікоў толькі пры прамых абразах. Другі бок, наадварот, абвінавачваў мяне ў патуранні апазіцыі.

-- **Раскладка сіл у парламенце ўсім вядома: на адным полюсе большасць, на другім -- апазіцыя. У віну Шушкевічу ставяць тое, што ён не стварыў цэнтрысцкай фракцыі, цэнтрысцкай групы.**

-- Усе мае спробы "згуртаваць" парламенцкі цэнтр заканчваліся няўдачай. На жаль, у нас не было сур'ёзнай цэнтрысцкай палітычнай структуры. На мяне пастаянна аказвалі націск з усіх бакоў. Я быў гатовы да кампрамісаў ва ўсіх сферах, акрамя адной -- страты беларускай дзяржаўнасці. Вельмі перашкаджаў аб'яднанню і непрафесійны статус Вярхоўнага Савета. Мне ўдалося пабываць у парламентах шэрагу дзяржаў. І пасля кожнай такой паездкі я ўсё больш пераконваўся: непрафесійны парламент у Беларусі будзе толькі прыдаткам любой выканаўчай улады, не здольным уздзейнічаць на падзеі. Нельга, каб 346 дэпутатаў кантралявалі работу ўрада. Што датычыць парламенцкіх камісій, то яны пайшлі на паваду ва ўрада, чакаючы ад яго, мякка кажучы, даброт і пераходзячы ва ўрадавыя структуры. Адбылося аб'яднанне тых, каго ў свой час вылучыла Камуністычная партыя. Многія з гэтых людзей сёння ўжо не стаяць на камуністычных пазіцыях, але чыста чалавечае іх аб'яднанне магутнае і непрабівальнае.

Аб'ядноўвацца ў парламенце можна, у маім разуменні, толькі на аснове якіх-небудзь прынцыпаў, а не на асабістым падладжванні. У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета вельмі розныя людзі. Мне заўсёды лёгка працавалася з Сасновым, Міцько, Гілевічам, Слямнёвым... Я радаваўся, гледзячы, як напрацоўвае вопыт Козік. Цікавы чалавек Гаркун... Але ж у Прэзідыуме ёсць і Кулічкоў, для якога мэтазгоднасць любога падыходу вызначаецца толькі адным -- што наконт гэтага думае ўрад. Прыкладна ў такім жа ключы працаваў і Унучка. Але з усімі, акрамя пана Булахава, які, я лічу, пераступіў парог маралі, у мяне ў цэлым былі нармальныя адносіны. Аднак палітычныя прадузятасці часам наўмысна, часам міжволі адбіваліся на прымаемых рашэннях.

А вазьміце прыклад з маім намеснікам. Колькі я прапаноўваў кандыдатур, не менш як дзесяць, уключаючы і Грыба. І кожная Вярхоўнаму Савету не падыходзіла. Сёння мне ўсё больш здаецца: такія паводзіны большасці былі пралічаны. Яны не хацелі, каб у Шушкевіча паявілася апора, як не хацелі, скажам, выбраць на вакантнае месца старшыні камісіі Вярцінскага, разумеючы, што ў мяне паявіцца дадатковая падтрымка ў Прэзідыуме.

-- **На думку некаторых дэпутатаў, палітычная драма Станіслава Шушкевіча заключаецца ў тым, што ён ні разу не адстаяў сваю пазіцыю да канца. Вы з гэтым згодны?**

-- Успомнім гісторыю з рэферэндумам аб даверы Вярхоўнаму Савету. Сама фармулёўка пастаўленага БНФ на ўсенароднае галасаванне пытання ўяўляла сабой нагрувашчванне такой колькасці пытанняў, што гэты сімбіёз нельга было наогул выносіць на рэферэндум. І мне думалася, што, вызначыўшы сакавік 1994 года датай датэрміновых выбараў, парламент знайшоў дастойны выхад з узнікшага становішча. Напэўна, думка аба мне як аб палітыку, які не да канца адстойвае сваю пазіцыю, склалася ў людзей таму, што я задавольваўся толькі тымі прапановамі, якія маглі быць рэальна ўвасобленымі ў жыцці. Калі б я пайшоў далей, то стаў бы падобным на тых людзей, якія выходзяць на плошчу. Усе добра ведаюць: любыя радыкальныя перамены Вярхоўны Савет блакіруе.

-- **Скажыце, у такой сітуацыі ў вас не ўзнікала жадання пайсці ў адстаўку самому, што называецца, стукнуўшы дзвярамі.**

-- Не, не ўзнікала. І толькі па адной прычыне: я адчуваў, што, узначальваючы парламент, часам усё ж магу процідзейнічаць антырэфарматарскім дзеянням. Зразумела, да пары. Я і так занадта доўга пратрымаўся. Прызнаюся, было прадчуванне, што знімуць мяне яшчэ на месяц раней, чым гэта здарылася. Большасць у Вярхоўным Савеце вельмі не хацела прыезду ў Мінск прэзідэнта ЗША, не хацела прызнання Клінтанам Беларусі як самастойнай еўрапейскай дзяржавы. І, можа, адна з самых галоўных вех у маім жыцці -- гэта тое, што візіт Клінтана, нягледзячы на ўсе перашкоды, адбыўся, што мы падпісалі важныя дакументы, што ў высокага госця склалася свая думка аб нашай Беларусі.

-- **А ці можна з вашай адстаўкі прагназіраваць лёс Барыса Ельцына і Леаніда Краўчука, паколькі, як сказаў дэпутат Віктар Ганчар, "паў Шушкевіч -- першы "белавежскі зубр"?**

-- Ганчар яшчэ малады чалавек, і сілы свае ён яўна пераацаніў. Што датычыць мяне, то неправамерна звязваць маё зняцце з пасады з сітуацыяй у Расіі або на Украіне. Я не лічу сябе такой значнай фігурай, каб мая адстаўка ўплывала на становішча спраў прэзідэнта Украіны і тым больш прэзідэнта Расіі. Я меў працяглыя гутаркі і з Леанідам Макаравічам, і з Барысам Мікалаевічам. Выводзіць нейкую аналогію з маёй проста несур'ёзна. У кіруемых імі дзяржавах зусім іншыя суадносіны сіл, зусім іншыя працэсы, іншы баланс эканомікі... Акрамя таго, пакінулі свае пасады Муталібаў, Эльчыбей, нябожчык Гамсахурдыя, якія ў Белавежскай пушчы нічога не падпісвалі.

-- **Прозвішчы Гайдар і Шушкевіч у многіх людзей асацыіруюцца з рыначнымі, дэмакратычнымі пераўтварэннямі. Ці можна расцэньваць іх зняцце з пасады як "згортванне рэформ", "наступленне кансерватараў"?**

-- Я хацеў бы звярнуць увагу на зусім розныя прычыны адстаўкі. Першы раз Гайдар вымушаны быў пайсці ў адстаўку ў сітуацыі, падобнай на маю. Тады ў расійскім парламенце ўзялі верх старыя падыходы. Цяпер там іншая сітуацыя. Мне здаецца, тое мноства дакументаў, якія Расія падпісала з міжнароднымі манетарнымі, фінансавымі арганізацыямі, не дазволіць ёй сысці з рыначнага курсу, таму што ў Расіі разумеюць, што спроба кіраваць старымі метадамі вядзе да "украінізацыі", хаця я і вельмі не люблю гэтага слова.

-- **У тэмпах рэформ Беларусь ад Расіі адстала. Ці дапаможа маючае адбыцца аб'яднанне грашовых сістэм зрабіць эканамічны рывок наперад?**

-- Сёння на дачы ў мяне госціць стары сябар. Завод, на якім ён працуе, спынены. Я вельмі шчыра жадаю, каб у нашага ўрада што-небудзь атрымалася. Калі так шмат прадпрыемстваў не працуе, не можа дзяржава выйсці з такога становішча за кошт якога-небудзь дагавора ці аб'яднання. Трэба тэрмінова шукаць выйсце з катастрафічнага становішча. А інтэнсіўныя пошукі, на мой погляд, не вядуцца. Нельга, мне думаецца, усё зводзіць да аднаго метаду, назавём яго ўмоўна "дзяржпланаўскім". У мяне нармальная прыродазнаўчая адукацыя, і я даволі нядрэнна знаёмы з матэматыкай, каб ведаць: вельмі многія ўраўненні маюць не адно правільнае рашэнне. Навошта ж абсалютызаваць толькі свой падыход? Мне здавалася, што Беларусь больш за іншыя краіны была падрыхтавана да рыначнага рэфармавання. Але, відаць, я не ўлічваў, што ментальнасць нашага народа яшчэ больш дэфармавана камуністычным часам.

Я -- перакананы прыхільнік рынку, але калі знойдзецца іншы шлях, вядома ж, без ГУЛАГаў, і будзе станоўчы вынік, то гэта цудоўна. Аднак я вельмі баюся, што, калі мы пачнём кідацца раз-пораз ад рынку да плана, потым назад, то народ пацерпіць яшчэ больш.

Ні для кога не сакрэт, што з тэмпамі рынaчных рэформ у Беларусі ніколі не спяшаліся. І мой прагноз такі: калі пераўтварэнні замарудзяцца, то перспектывы ў нас самыя змрочныя. У згубнасці такога курсу я ўпэўнены, але процістаяць яму не мог. Я дакладна ведаў, займаючы месца старшыні, што правоў і рэальных уладных паўнамоцтваў у спікера практычна няма. Памыляюцца тыя, хто думаў, што Шушкевіч не хацеў што-небудзь змяняць. Структура самой улады ў нас такая: калі парламенцкая большасць не захоча нешта прыняць, то ні Шушкевіч, ні Грыб, ні нехта іншы, хто знаходзіцца на гэтай пасадзе, нічога не зможа зрабіць.

-- **Як вы лічыце, Беларусі патрэбны свой прэзідэнт?**

-- Ідэальным варыянтам была б мадэль парламенцкай рэспублікі. Аднак бязладнасць, расхлябанасць, невыкананне абавязацельстваў, дадзеных народу, магчыма, зможа спыніць выбранне прэзідэнта. Як народны дэпутат, сёння я галасаваў бы за ўстанаўленне інстытута прэзідэнцкай улады.

-- **А як вы думаеце, ці зможа Мячэслаў Іванавіч Грыб знайсці нейкі свой варыянт паскарэння рэформ?**

-- Не ведаю. Ён адрозніваецца цудоўнай уласцівасцю адаптавання да любой сітуацыі. Калісьці я быў цвёрда ўпэўнены, што Мячэслаў Іванавіч -- прыхільнік беларускай дзяржаўнасці. І таму прапаноўваў яго ў свае намеснікі. На маё здзіўленне, Вярхоўны Савет яго кандыдатуру не зацвердзіў. Паўтараюся: ён чалавек вельмі гібкі, і, відаць, у хуткім часе мы ўбачым праяўленне гэтай якасці.

-- **Ці збіраецца Станіслаў Шушкевіч вяртацца ў вялікую палітыку?**

-- Я вельмі стаміўся. За ўвесь мінулы год я адпачываў усяго 10 дзён. Хачу перадыхнуць. Працуючы ва універсітэце, я ніколі не ўжываў лякарстваў. У Вярхоўным Савеце ў апошні час маёй нормай сталі 2-3 таблеткі аспірыну ў дзень: пакутаваў ад галаўнога болю.

Відаць, выкраю час, каб змяніць абстаноўку і на тыдзень з'ездзіць у Бон, куды мяне даўно звалі прачытаць некалькі лекцый. А потым на ваша пытанне адкажа само жыццё.

**Уладзімір ГЛЮД (Белінфарм) і Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ ("Інтэрфакс").**

# УНУЧКА СЛАВУТАГА ПАДАРОЖНІКА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Калі хлопчыку было толькі тры гады, яго бацька вымушаны быў пакінуць радзіму. Спачатку трапіў у Турцыю, пасля ў Еўропу і тады ўжо -- у Лацінскую Амерыку. Памерла і яго жонка. Немаўля засталося сіратою. Выхоўваўся Іван у хаце братоў яго бацькі -- Міхаіла Карлавіча і Аляксандра Карлавіча Ельскіх.

З цяжкасцю ўдалося хлопцу атрымаць адукацыю. Працаваў настаўнікам у Пінску і Гародні. За вальнадумства, удзел у рэвалюцыйным руху маладога чалавека пазбавілі дваранства. А потым саслалі на Паўночны Каўказ, у Новарасійск. Туды Івану пісала маладая эмансіпіраваная жанчына Гартэнзія Іеранімаўна Станкевіч (1859--1937). У хуткім часе яна і прыехала да свайго сябра, падзяліла з ім яго няпросты лёс. Праз некаторы час маладыя людзі павянчаліся. За тое, што самастойна паехала да каханага ў высылку, бацькі пазбавілі Гартэнзію свайго блаславення і спадчыны.

У Новарасійску Іван Канстанцінавіч працаваў канторшчыкам на элеватары. Пасля рэвалюцыі быў прызначаны на пасаду камерцыйнага дырэктара гэтага ж прадпрыемства. З 1918 года з'яўляўся членам прафсаюза чыгуначнікаў. Рабочыя, калегі па працы вельмі прыхільна ставіліся да Ельскага.

Соф'я -- другая дачка ў сям'і Івана Канстанцінавіча і Гартэнзіі Іеранімаўны. Першая -- Марыя -- нарадзілася ў 1895 годзе. А праз два гады -- і Соф'я... Усяго ж у сям'і сына славутага падарожніка было шасцёра дзяцей. Акрамя Марыі і Соф'і -- яшчэ Эдуард, Вітольд, Ядвіга і Улада.

У гімназіі Соф'я была першай вучаніцай і закончыла яе з медалём. Яшчэ ў гады вучобы праявіліся аратарскія, артыстычныя здольнасці дзяўчыны. У сям'і Ельскіх захоўваюцца ўспаміны, як на выпускным экзамене Соф'я чытала маналог Барыса з драмы Пушкіна "Барыс Гадуноў". Камісія доўга апладзіравала юнай чытальніцы. Была дзяўчына і добрым плыўцом. Пераплывала Новарасійскую бухту. Сын Соф'і Іванаўны -- Віктар Мікалаевіч Ельскі, доктар медыцынскіх навук з Данецка, расказвае:

-- У сям'і вядомы такі выпадак. У сапраўдны штармавы норд-ост, які звычайна праходзіць у Новарасійску вельмі складана, мама кінулася ў мора і выратавала дарослага чалавека. За што і адзначылі Соф'ю Іванаўну спецыяльным медалём.

У 1914 годзе дзяўчына паступіла на прыродазнаўчы факультэт Кіеўскага універсітэта. Пайшла па сцежцы, пракладзенай яе дзедам -- Канстанцінам Міхайлавічам Ельскім, выбраўшы прафесію біёлага. Расповяды Соф'і Іванаўны пра вучобу ва універсітэце, пра атмасферу тых гадоў у сям'і Ельскіх параўноўваюць з апісанай студэнцкай, грамадскай атмасферай у творах Булгакава, Паустоўскага. Соф'я прымала самы актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах, сходках, мітынгах, дэманстрацыях... Не атрымліваючы стыпендыі, не маючы матэрыяльнай падтрымкі з дому, дзяўчына зарабляла сабе на жыццё рэпетытарствам.

А тым часам ішла першая імперыялістычная вайна. Патрыятычны настрой падштурхнуў Соф'ю да вучобы на курсах Чырвонага Крыжа. Пакінуўшы вучобу ва універсітэце, дзяўчына едзе на фронт сястрой міласэрнасці. Амаль кругласутачна дзяжурыць у шпіталі. Дома ў Ельскіх і пасля вайны доўга захоўваліся лісты ад удзячных раненых, каму Соф'я ратавала жыццё. Аднойчы, калі дзяўчына вярталася з Кіева на перадавую, адбылася цікавая сустрэча. Спадарожнікам сястры міласэрнасці аказаўся, як высветлілася пасля, граф Мусін-Пушкін. Яшчэ не ведаючы, з кім размаўляе, дзяўчына расказала пра ўсё бязладдзе, што складваецца пры арганізацыі медыцынскай дапамогі на фронце. Развітваючыся з дзяўчынай, граф даў сваю візітную картку і сказаў, што яна вельмі аблягчыла яму працу, бо ён едзе на фронт праводзіць інспекцыю менавіта па гэтых пытаннях.

І яшчэ адна цікавая сустрэча адбылася ў Соф'і Іванаўны на фронце -- з сястрой Ф. Дзяржынскага, Ядвігай Эдмундаўнай. Праз колькі гадоў якраз яна дапамагла выратаваць ад арышту, а магчыма і ад смерці сястру Соф'і Ельскай -- Ядвігу. А затрымала яе ЧК па даносу, што "кампанія маладых людзей пела "Боже, царя храни" на замежнай мове". На самай жа справе студэнты ў Таццянін дзень выконвалі старажытны студэнцкі гімн.

У 1916 годзе шпіталь, у якім служыла Ельская, пераводзяць у Растоў-на-Доне. Сюды ж эвакуіравалі і Варшаўскі універсітэт, у якім вучыўся будучы муж Соф'і -- Мікалай Мікалаевіч Благавешчанскі. А пазнаёміліся маладыя людзі ў інфекцыйным бараку, дзе Мікалай працаваў урачом-бактэрыёлагам, а Соф'я -- медыцынскай сястрой.

Тут, у Растове, працуючы фактычна ў цэнтры ачага інфекцыі, Ельская перахварэла ўсімі тыфамі. А зваротным тыфам -- двойчы. Будучы чалавекам назіральным, Соф'я Іванаўна прапанавала новы тэст для правядзення дыягностыкі тыфу, які пасля і прымянялі ў клініцы.

З 1920 па 1921 год Ельская ізноў у Новарасійску, працуе намеснікам дырэктара марской біялагічнай станцыі. У 1922 годзе Соф'я выходзіць замуж за Благавешчанскага. Разам пераязджаюць у Казань. Мікалай Мікалаевіч працуе асістэнтам кафедры мікрабіялогіі Казанскага універсітэта і навуковым супрацоўнікам Казанскага бактэрыялагічнага інстытута. Тут Соф'я паступае на 2-гі курс прыродазнаўчага факультэта Казанскага універсітэта і заканчвае вучобу ў 1926 годзе. А паралельна вучыцца (каб мець спецыяльную агратэхнічную адукацыю) у Казанскім інстытуце сельскай і лясной гаспадаркі. У 1926 годзе ў сям'і Благавешчанскага і Ельскай нарадзілася першае дзіця -- дачка Ірына. Узялі маладыя людзі да сябе на выхаванне і двух пляменнікаў Мікалая Мікалаевіча -- Валерыя і Віктара. Маці іх рана памерла. А бацька -- святар -- быў высланы.

Якраз у тыя дваццатыя гады і пачынаецца фарміраванне Ельскай як вучонага. З 1929 года Соф'я Іванаўна працуе практыканткай, а пасля інструктарам станцыі па абароне раслін ад шкоднікаў. Выконвае складаную працу "Даследаванне забаватасці карэнняў саджанцаў яблыні" (у 1930 годзе артыкул пад гэтай жа назвай друкуецца ў часопісе "Ведамасці Казанскага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі"). Следам выходзіць у свет і манаграфія С. Ельскай "Матэрыялы да вывучэння рака карэнняў яблыні". Сваімі адкрыццямі жанчына дапамагла разабрацца ў прыродзе захворванняў фруктовых дрэў, якім у Татарыі пагражала літаральна выміранне. Рэкамендацыі Ельскай узялі на ўзбраенне практыкі. Тым самым сады былі выратаваны. У 1930 годзе Соф'ю Іванаўну накіроўваюць на падрыхтоўку па спецыяльнасці фітапатолаг у Інстытут абароны раслін Сельскагаспадарчай акадэміі ў Ленінградзе. А пасля вучобы залічваюць асістэнтам кафедры фітапаталогіі Казанскага сельскагаспадарчага інстытута.

Мікалай Благавешчанскі на той час быў ужо вядомым вучоным-мікрабіёлагам. Яго навуковыя працы друкаваліся ў замежжы. У 1929 годзе пабачыла свет манаграфія Благавешчанскага "Пра мясцовы імунітэт". Сваю навуковую каштоўнасць яна не згубіла і па сённяшні час. У Казані ўпершыню сутыкнуўся Мікалай Мікалаевіч і з рэпрэсіўнай машынай. Беспадстаўна арыштаваны, Благавешчанскі прасядзеў у турме некалькі месяцаў. Але тым разам выпусцілі...

У Данецку толькі што адкрыўся медыцынскі інстытут. Мікалая Мікалаевіча і Соф'ю Іванаўну запрасілі туды на працу. Ельская актыўна ўключылася ў стварэнне лекцыйнай інстытуцкай базы, праводзіла свае навуковыя росшукі. Цэнтральная Атэстацыйная камісія пры Наркамаце асветы прысвоіла Соф'і Іванаўне ступень кандыдата біялагічных навук без абароны дысертацыі, званне старшага асістэнта і дазволіла рабіць доктарскую дысертацыю без кандыдацкай.

Шматбаковая універсітэцкая адукацыя дазволіла Ельскай у 30-я гады з дапамогай матэматычнага апарата правесці глыбокія навуковыя даследаванні ў галіне генетыкі. Соф'я Іванаўна чытала лекцыі на вядучым -- лячэбным -- факультэце. Праца маладога выкладчыка мела поспех. Як толькі заканчваўся курс навучання, студэнты адорвалі Соф'ю Іванаўну букетамі кветак.

У 1933 годзе з'явілася на свет яшчэ адно дзіця -- сын Віктар. А той жа год (і асабліва на Украіне) памятны надзвычайным голадам. тады якраз на Пажарнай плошчы горада Соф'я Іванаўна сустрэла чацвярых дзяцей, бацькі якіх загінулі ад голаду. Не пакінула без увагі. Прывяла дадому, накарміла. Доўгі час чужыя дзеці жылі ў сям'і вучоных. А дружбу з імі Ельскія (ужо дзеці Соф'і Іванаўны) захавалі на ўсё жыццё.

У 1937 годзе кволыя жаночыя плечы Ельскай вытрымалі шмат што. Памерла маці -- Гартэнзія Іеранімаўна. А 30 снежня, напярэдадні Новага года, быў другі раз арыштаваны муж разам з групай дактароў-эпідэміёлагаў, інфекцыяністаў. У той жа час мікрабіёлагаў-інфекцыяністаў арыштоўвалі і ў іншых гарадах -- у Харкаве, Маскве, Ленінградзе. А, між тым, мікрабіёлагаў ва ўсім свеце прыраўноўваюць да патэнцыялу ваенных кадраў. І вось як быццам знарок незадоўга да вайны вынішчаліся людзі, без якіх краіне не абысціся. На ўсе запыты родных, знаёмых аб лёсе Благавешчанскага .адказ быў адзін: "Рэпрэсіраваны на 10 гадоў без права перапіскі..." І толькі ў 1957 годзе Соф'я Іванаўна даведалася пра пасмяротную рэабілітацыю мужа за адсутнасцю злачынства. А ў 1988 годзе сыну -- Віктару Мікалаевічу -- пераслалі ўдакладненне, што бацька быў асуджаны за трацкізм і шкодніцтва ў галіне аховы здароўя і расстраляны ў 1938 годзе.

Прыйшла вайна. Ельская разам са студэнтамі і дзецьмі знаходзілася на сельскагаспадарчых работах у вёсцы. Пачаліся паветраныя налёты фашысцкай авіяцыі і на Данецк. Набліжалася лінія фронта. Соф'я Іванаўна разам з дзецьмі дзяжурыла на даху свайго пяціпавярховага дома. Калі пачалася эвакуацыя, жанчына папрасіла дырэктара інстытута даць дазвол на пераезд у Казань, дзе жылі родзічы. У адказ -- грубая рэпліка:

-- Не сейце паніку!..

У канцы кастрычніка пачалася масавая эвакуацыя. Ішла яна неарганізавана, паспешна. Інстытуцкі эшалон пайшоў раней прызначанага тэрміну. Многія сем'і засталіся. У тым ліку і Соф'я Іванаўна з дзецьмі. Акупацыя. Холад. Голад. Маральныя і фізічныя здзекі, прыніжэнне. Не жыццё, а існаванне на мяжы, блізкай да смерці. Соф'я Іванаўна, дзеці па магчымасці хадзілі ў навакольныя вёскі, абменьвалі рэчы, вопратку на прадукты. Займаліся саматужнай працай, якая не надта што і давала. У знак аплаты прыносілі дадому перамёрзлую бульбу, абгарэлае зерне.

Соф'я Іванаўна працавала і ў клінічнай лабараторыі цывільнай бальніцы. Толькі пасля вайны дзеці даведаліся, што маці рызыкавала жыццём, удзельнічала ў рабоце падпольнай арганізацыі. Але і ў вайну і Ірына, і Віктар ведалі, што Соф'я Іванаўна выдавала фіктыўныя даведкі пра хваробы, якія дазвалялі людзям пазбегчы германскага палону. Хавала Ельская ў сваім доме і савецкага ваеннапалоннага. Рызыкоўна гэта было яшчэ і таму, што большую частку кватэр у доме займалі нямецкія афіцэры, служачыя. Але ж на гэта і стаўка была зроблена. Хто стане шукаць уцекача сярод немцаў, побач з іх жытлом? Пасля палоннаму далі цёплыя рэчы, сабралі прадуктаў. І ён пайшоў на ўсход, дагнаў фронт, ваяваў. Пасля вайны Ельскія сустракаліся з былым уцекачом. Зараз Т. Духоўны -- прафесар Данецкага універсітэта.

Соф'я Іванаўна ўсю вайну заставалася не проста смелым чалавекам, яна была смелым вучоным. Улетку 1943 года Ельская ўстанавіла бактэрыялагічны дыягназ у лагеры ваеннапалонных. Аналіз пацвердзілі ў самім Берліне. Немцы надзвычай баяліся інфекцыйных хвароб. Гэта прымусіла іх правесці супрацьэпідэмічныя мерапрыемствы і папярэдзіць успышку халеры.

У верасні 1943 года савецкія войскі вызвалілі Данецк. Разам з аднаўленнем горада пачалося і аднаўленне інстытута. Соф'я Іванаўна арганізавала кафедру, літаральна з попелу адрадзіла яе. Ужо ў кастрычніку пачаліся заняткі ў памяшканні, напалову разбураным. Вокны "зашклілі" бляхай. Ацяпленне наладзілі з дапамогай металічных печак. Зіма ж была звычайная, калі не халаднейшая, чым заўсёды. Лекцыі ў такіх умовах выклікалі ў Соф'і Іванаўны цяжкі радыкуліт. Выкладчыцу прыводзілі дахаты пад рукі, разгладжвалі спіну прасам. Толькі пасля гэтага жанчына магла сесці ці легчы. Ізноў -- холад і голад. А яшчэ ж на сям'і пячатка: "былі ў акупацыі". Хутка стала вядома, што ў 1942 годзе на фронце, як "ворага народа", арыштавалі і асудзілі пляменніка Мікалая Мікалаевіча -- Віктара Благавешчанскага, артыста і галоўнага рэжысёра Краснадарскага драматычнага тэатра...

Вось якраз тады Соф'я Іванаўна пад уражаннем усіх сямейных трагедый вырашыла пакінуць сына Віктара пад сваім прозвішчам. Тым больш, што і пасля шлюбу з М. Благавешчанскім заставалася Ельскай. І ўсе навуковыя працы друкавала пад гэтым прозвішчам. Ды і дакументы аб нараджэнні Віктара былі знішчаны ў час акупацыі.

Паціху жыццё наладжвалася. Соф'я Іванаўна працягвала загадваць кафедрай. Па лініі таварыства "Веды" з лекцыямі ездзіла па ўсіх раёнах Данбаса, выступала ў рабочых пасёлках і вёсках. Чытала лекцыі на біялагічныя тэмы ля прахадной шахты і на палявых станах. А юны Віктар Ельскі суправаджаў маці ў якасці памочніка.

Прайшоў 1947 год. Мінулася дзесяць гадоў пасля арышту мужа. Соф'я Ельская падрыхтавала да абароны доктарскую дысертацыю па генетыцы. А ў 1948 -- вядомая сесія "ВАСХНИЛ". Поўны разгром генетыкі і генетыкаў, а следам -- "лысенкаўшчына". Дысертацыю забралі і знішчылі. Яшчэ адна трагедыя. Вызвалілі ад загадвання кафедрай. Прыгадайце добра вядомую па творах "Зубр", "Белае адзенне" атмасферу -- і вы сутыкняцеся з лёсам генетыка, нашай зямлячкі Соф'і Ельскай. Ды афіцыйная забарона не здолела пазбавіць жадання займацца генетыкай самастойна. На кватэру да Ельскай прыходзілі студэнты, школьнікі. Разам з Соф'яй Іванаўнай рашалі задачкі па законах спадчыннасці, каторыя вельмі і вельмі неабходныя для біялагічнай адукацыі будучых медыкаў, для практычнай іх дзейнасці ў генетычных кансультацыйных цэнтрах.

Ад лекцыйнай працы Ельскую не вызвалілі. Ды зараз ужо Соф'я Іванаўна змяніла накірунак, успомніла колішнія заняткі фітапаталогіяй. І ў гэтую справу ўкладвала Соф'я Іванаўна душу і сэрца, працавала, як заўсёды, сумленна, аддаючы навуцы ўсе сілы. На працягу трох гадоў Ельская правяла агромністую працу па вывучэнню фітанцыдаў вышэйшых раслін Данбаса. Арганізавала многа экспедыцый, зрабіла мноства аналізаў у палявых умовах і ў лабараторыі. Матэрыялы, сабраныя Ельскай (дарэчы, у сталым ужо ўзросце: нарадзілася ж Соф'я ў 1897 годзе), выкарыстаў у сваёй манаграфіі навуковы кіраўнік Соф'і Іванаўны ленінградскі прафесар Б. Токін. Яго працу "Фітанцыды" адзначылі Дзяржаўнай прэміяй. Матэрыялы даследчыцы паслужылі таксама асновай і для некалькіх выданняў кнігі яе вучня М. Саломчанкі "Лекавыя расліны Данбаса".

У 1957 годзе Соф'я Іванаўна даведалася пра пасмяротную рэабілітацыю мужа і яго пляменніка, іх прыёмнага сына. Кажучы словамі псіхолагаў і ўрачоў, у жанчыны наступіў сіндром адмены. У 1962 годзе ўнучка вядомага падарожніка, наша зямлячка памерла.

Лёс Соф'і Іванаўны Ельскай паказальны для славутага роду. Усе Ельскія імкнуліся жыццём сваім прыносіць карысць людзям.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

Мікола ШЧАГЛОЎ

# БЕЛАРУСКІ САЛАВЕЙ

## (Міхась ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ)



Іван ЗАБЭЙДА — бацька вялікага спевака.



1918 г. Настаўнік М. ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ з вучнямі ва Усць-Калмянскай школе.

Гэтак з дзяцінства Міхась і жыў у адзіноце самапасам. Калі падрос, пачаў хадзіць да маткі у панскі двор, туляўся ля кухні, дзе жылі батракі і работнікі. Блізу зусім бяспрытульнае жыцьцё не скалечыла, аднак, хлапчука, ён быў жывы, вясёлы, задзёрысты. Бывала, зьбярэ сяброў-хлапчукоў і прыдумвае з імі розныя гульні. Аднойчы, калі першы ільдок пакрыў дворскую саджалку, Міхась з сябрамі пачалі прабаваць моц ільду. Але справа скончылася нявесёла – сам пачынальнік Міхаська праваліўся у ваду. І сьмех, і сьлёзы.. Шчасьлівыя хвіліны дзяцінства былі, аднак, рэдкія. Матцы цяжка, ёй трэ дапамагаць, каб зарабляць больш. Замест гульняў Міхась мусіць працаваць. Ён ганяе коней на млын. Два грошы у дзень каштуе гэтая праца, але усё-ткі дапамога. І хлопец зарабляе. Дарма, што за цэлы дзень ён гэтак "наконіцца", што ляжыць як мярцьвяк у кухні на тапчане і нават у сьне крычыць "тпру" ды "но", а іншы раз у такім трызьненьні і зваліцца на падлогу са свайго жабрацкага ложку! Матцы хоць надта цяжка, але яна турбуецца лёсам бяспрытульнага сына. Яна памятае запавет Міхасёвага бацькі: "Вучы сыноў, бяз навукі няма жыцьця!" і аддае Міхася у школу. А школа была аж за сем кілёмэтраў ад месца ейнае працы. І вось васьмігадовы Міхась бярэ з сабою хлеба, круп у торбачку на тыдзень і ідзе на заняткі. Жыве у вартоўні пры школе, сам варыць сабе нескладаную ежу, а кажную сыботу вяртаецца да маткі, каб з раньня у панядзелак зноў ісьці набірацца школьнага розуму. Нельга сказаць, што Міхасю лёгка ён даваўся, але ён быў вельмі старэнны і браў навуку уседлівасьцю. Галоўнаю перашкодаю была расейская мова, якую беларускі хлапчук, узгадаваны з малых гадоў у беларускай хаце, часта зусім не разумеў.Колькі тут было непаразуменьняў, нават анэкдатычнага характару! Але старэннасьць і працаздольнасьць перамагла, і Міхась у школе лічыўся адным з лепшых вучняў. Чатырнаццаці год ён скончыў двухклясную царкоўна-прыходзкую школу. Адыйшло нерадаснае, але усё ж мілае для кажнага чалавека дзяцінства, і пачалося юнацтва. Трэ было падумаць аб далейшай дарозе. Прывілеяваныя навучальныя установы былі зачыненыя перад маладым Забэйдай-Суміцкім, і таму выбар ягоны затрымаўся на Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі. Старэнна падрыхтаваўся ён да прыёмных іспытаў, добра іх вытрымаў і, уступіўшы у сэмінарыю, атрымаў спачатку прыватную, а потым і казённую стыпэндыю. Апошняя пазбаўляла яго ад неабходнасьці падзарабляць на вучобу на панскім двары і давала ужо магчымасьць аддацца толькі навуцы. Цяпер ён мог пазнаваць сьвет, які дагэтуль быў для яго таямніцаю. Наколькі малады Міхась быў у гэтым несьвядомы, можа сьветчыць сумна-камічны факт, што толькі на чатырнаццатым годзе, трапіўшы у Маладэчна, ён упяршыню убачыў чыгунку і цягнік і ажно спужаўся ягонага стогну і сьвісту. Цягнік нездарма так зьлякаў Міхася Забэйду, сустрэча з ім была для яго нечым сымбалічным, што заважыла на усім ягоным жыцьці: ужо праз год пачалася Міхасёвая вандроўка, якая не спынілася да сяньня. Першая сусьветная вайна 1914–1918 гадоў пераразае фронтам межы Беларусі. Міхась з сям'ёю, прымушаныя кінуць родныя месцы і шукаць долі на чужыне. Натоўп уцекачоў, як цёмныя хмары, паплылі па усіх шляхох з захаду на усход. З імі разам пацягнулася і сям'я Забэйды. Праз доўгі час валачобніцтва яны, нарэшце, апынуліся аж у Тамбоўскай губэрні на станцыі Багаяўленскае. Сям'я як колечы абсталёўваецца, Забэйда-Суміцкі, які імкнецца атрымаць асьвету, едзе шукаць месца для вучобы.

Спачатку трапляе ён у Пэнзэнскую настаўніцкую сэмінарыю, а потым, давcovered даўшыся, што Маладэчанская сэмінарыя, ягоная "Alma mater" эвакуявалася у Смаленск, -- накіроўваецца туды. Тры гады мінулі тут больш-менш супакойна, і у 1918 годзе, восемнаццацігадовы юнак канчае курс свае агульнаасьветнае навукі. Як дзяцінства, няўзнак мінула і ягонае вандроўнае юнацтва, і надыйшла пара сьпеласьці, туманнае і загадкавае. Сям'я і знаёмыя аднавяскоўцы, якія трапілі былі у Тамбоўскую губэрню, пераехалі тымчасам у Сібір, і Забэйда-Суміцкі едзе да сваіх на усход. У сяле Калмансам, Барнаульскага павету, ён атрымвае пасаду настаўніка народнае школы. Але нядоўга давялося яму тут працаваць. Завіруха грамадзянскае вайны дакацілася і да Сібіру. Яна падхапіла і маладога настаўніка і занесла яго у кітайскі Харбін. Тут мы і бачым Забэйду-Суміцкага, як опэрнага сьпевака, які толькі што прачытаў рэцэнзію на сваё выступленьне у опэры "Аўген Анегін" і які цяпер з усхваляваньнем успамінае аб сваім мінулым і думае аб будучыні. Аднак наш дарагі чытач зусім зьдзіўлены. Як паганяты коней, потым сэмінарысты і настаўнік народнае школы стаўся опэрным сьпеваком? Не сьпяшайцеся. Гэтае справядлівае пытаньне ня менш цікавіла і мяне. Таму я павінен адказаць на яго і сабе і вам. Прасачыць, як прыйшоў да мастацтва Забэйда-Суміцкі, як ён патрапіў на Парнас, справа ня толькі цікавая, але і вельмі павучальная.

Працяг. Пачатак у № 5.

### РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ

**Шлях да мастацтва. -- Ахвота да сьпеваў. -- Паважная навука. -- Крызыс. -- Зноў у дарозе. -- Харбінская опэра. -- Падарожжа у Італію.**

*"Моц сваю сьвету пакажам...*
*Зьдзівяцца старцы і дзеці,*
*Што знача песьня і сіла,*
*Што знача моцна хацеці!"*

Для таго, каб стацца запраўдным мастаком, мала адных здольнасьцяў, мала і вялікага, нават, таленту, трэба яшчэ моцнага хаценьня і уменьня працаваць, працаваць дзень у дзень пільна, сумленна. Толькі тады можна сягнуць да глыбіняў мастацтва, ці узьнесьціся на ягонае узвышша. І Забэйда-Суміцкі адразу зразумеў тайніцу творчасьці. Ягоны мастацкі шлях сьветчыць і аб прыродных здольнасьцях і аб вялікай працавітасьці, настойлівасьці і упартасьці. Ня простаю, лёгкаю, шчасьліваю і бясхмарнаю дарогаю ішоў наш сьпявак да вышыняў мастацтва, наадварот, гэтая дарога была зьвілістаю, даўгою, камяністаю. Было на ёй ці мала і атрутаў, і пакутаў, і чорных хмараў. Кажны вялікі творца пазнаў іх у сваім жыцьці. Але так ужо склалася, што чым больш сустракаецца іх на шляху, тым вышэй узносіцца мастак. Гэтак было і з Забэйдаю-Суміцкім. Песьня вабіла яго з маленства. У сям'і сваёй ён слухаў сьпеў бацькі, які сьпяваў у царкоўным хоры, мілагучныя народныя песьні маці. Гэтыя апошнія мелі асаблівы уплыў на чулую душу малога Міхася. Маці ягоная мела вельмі прыгожы голас, ведала шмат песьняў і любіла сьпяваць іх маленькаму сынку, які разам з ёю і плакаў, і сьмяяўся. Першую навуку сьпеву, першыя ураженьні атрымаў Міхась якраз ад маткі, ад якое пасьля Забэйда-Суміцкі запісаў ці мала добрых матываў. Здольны хлопчык меў сам прыгожы голас -- дышкант, ён ахвотна сьпяваў у школьным хоры, дзе часта вылучаўся для удзельнічаньня у дуэтах і салёвых выступленьнях. Імкненьне да сьпеваў адчуваў ён і у гады навучаньня у настаўніцкай сэмінарыі. Але прыгожы дзіцячы голас быў ужо ня той, ён пераходзіў, гэтак званы, перыяд мутацыі -- пераходнага мамэнту паміж дзяцінствам і юнацтвам. Калі раз Забэйда-Суміцкі спытаўся у настаўніка, як яму падабаецца ягоны голас, дык той адказаў: "Голас ты, звычайна, маеш, але траскучы!". Не разумеючы сапраўднае прычыны гэтае "траскучасьці", юнак быў вельмі зьбянтэжаны адказам настаўніка, аднак цяга да сьпеваў не загінула. Сэмінарыя дала Забэйдзе-Суміцкаму досыць добрыя тэарэтычныя веды аб музыцы. Трэба памятаваць, што праграма тагачасных настаўніцкіх сэмінарыяў прадугледжвала ня толькі харавыя сьпевы, але і тэорыю музыкі, сальфэджыю, гру на іскрыпцы; кажны вучань падрыхтоўваўся да выкладаньня сьпеваў і музыкі, а, нават, да кіраваньня хорам.

Яшчэ у Сібіры Забэйда-Суміцкі спрабаваў выступаць на сцэне, а калі трапіў у Харбін, дзе было шмат культурных сілаў, ён канчальна наважваецца паважна вучыцца музычна-вакальнаму мастацтву. Прафэсарамі Забэйды-Суміцкага у Харбіне былі Ю. Плотніцкая (пастаноўка голасу), дырыгент Мэттэр (тэорыя і гісторыя музыкі) і Тамашынская (фартэпіяна). Нязвычайнае месца у творчым жыцьці Забэйды-Суміцкага заняла сьпявачка і пэдагог Ю. Плотніцкая. Гэта была вельмі здольная акторка, адна з старэйшых партнёркаў па опэры геніяльнага мастака Ф. Шаляпіна. І хоць у гэты час ёй было ужо 80 год, аднак, яна так умела паказаць зьмест, глыбіню і выразнасьць твору, што Забэйда-Суміцкі літаральна "купаўся у масьле вакальнага мастацтва". Ю. Плотніцкая адразу вычула здольнасьці і творчыя пачуцьці і імкненьні свайго вучня і займалася з ім, ня лічачыся з часам і сіламі, паступова і мэтадычна перадаючы яму свае веды і майстэрства. Забэйда-Суміцкі адказваў ёй выключнай уважлівасьцю, пашанай і плоднаю працаю. Хутка ён стаўся ейным улюбёным вучнем і сябрам. Раз у часе такое сяброўскае лекцыі, Ю. Плотніцкая сказала Забэйдзе-Суміцкаму :"Толькі Вам, мілы, я хачу перадаць усё тое, што ведаю і на што здольная, бо не хачу, каб гэта усё сайшло са мною у магілу". З Ю. Плотніцкаю Забэйда-Суміцкі падрыхтаваў партыі Ленскага ("Аўген Анегін", Чайкоўскага), князя ("Русалка", Даргамыжскага) і Сінадаля ("Дэман", Рубінштэйна), з якімі потым і увайшоў у Харбінскую опэру.

Харбінскі перыяд сваёй працы Забэйда-Суміцкі сьціпла называе "самым інтэнсыўным". Паспрабуем зірнуць гэтае інтэнсыўнасьці прост у вочы і мы пабачым сапраўдны твар андэй з найцяжэйшых балонак жыцьця Забэйды-Суміцкага, пэрыяд непасільнае працы і душэўнае драмы. Каб наважна займацца мастацтвам, Забэйдзе-Суміцкаму неабходныя былі матар'яльныя сродкі. Каб іх здабыць, ён працягвае сваю настаўніцкую дзейнасць, бегае па прыватных лекцыях. Не хапае ні сродкаў, ні часу, каб даць сабе адпачынак. Грамадзкія вечарыны, сады, кіно, рэстараны, -- усё гэта не для Забэйды-Суміцкага, ён жыве паміж навукаю і навучаньнем... Чалавек не машына, тая і то часам псуецца і ломіцца. У дваццаць пяць год у Забэйды-Суміцкага пачынаецца працэс у лёгкіх. Справа усладняецца тым, што у сям'і з гэтаю справаю вельмі дрэнна. Старэйшы брат памёр у веку 16 год ад сухотаў. Пагроза хваробы стаіць і перад малодшым. Трэба паважна лячыцца. Працэс, праўда, як-колечы залечваецца, але пагроза застаецца на усё жыцьцё. І цяпер Забэйда-Суміцкі вечна атуляе сваю шыю, баіцца дрэннага надвор'я, не гаворыць на ветры, ня курыць, ня п'е і у ва усім імкнецца быць вельмі асьцярожным.

---

Натальля АРСЕНЬНЕВА

### САЛАВЕЙ

*Любаму сябру -- Міхасю Забэйдзе-Суміцкаму з нагоды 15-ці годзьдзя ягонае сьпявацкае дзейнасьці, прысьвячаю.*

**З выраем звонкім, што**
**з ветрам плыве,**
**Зноў ты да нас прыляцеў, салавей,**
**Роднаю песьняй нас песьціць.**
**Зноўкі твой голас хвалюе да дна**
**Нашыя сэрцы, як сонца й вясна, --**
**Госьці ў закураным месьце.**
**Дык засьпявай нам, залійся вазьмі,**
**Як у вільготным хмызьзі салаў'і**
**Вечарам сінім у траўні.**
**Пей нам аб сонцы, што ў**
**лозах густых**
**Жоўта-зялёны разгойдвае дым**
**Рухам павольным і плаўным,**
**Пей аб вясьне, што ружовы туман**
**Сьцеле ўваччу і па сьвеце на зман,**
**Пей аб тузе і уцехах.**
**Песьняў тваіх раззалочаны сум**
**Ветры па рунях сівых панясуць,**
**Збудзяць вясновае рэха.**
**І залiецца ўвесь край, загудзе,**
**Ажно кругі паплывуць па вадзе,**
**Яблыні ўздымуць завею.**
**Пей, салавей, хай па сьвеце гучыць:**
**"Слаўна ўмеюць сьпяваць крывічы,**
**З песьняй -- іх лёс ня сьсівее!"**

Янка СІПАКОЎ

### ПЕСНІ

*Слухаючы Забэйду-Суміцкага*

**Зямля,**
**хоць такая вялікая,**
**А ўсяго пясчынка сусвету;**
**А ў песні, самай кароткай,**
**Змяшчаецца цэлы сусвет,**
**У сэрцы --**
**маленечкім жаўранку --**
**Жыве столькі матчыных песень...**
**І ты маеш сотні сусветаў --**
**Ты самы багаты чалавек на зямлі!**

# ДАВАЙЦЕ ПАРАІМСЯ

## АД ДЗЯРЖАЎНАЙ КАМІСІІ ПА ЎДАКЛАДНЕННІ ПРАВАПІСУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

**Камісія завяршыла першы этап работы і выносіць на разгляд грамадскасці свае прапановы па зменах у правапісе. Як і трэба было чакаць, найбольш спрэчак і разыходжанняў сярод членаў Камісіі выклікала пытанне аб правапісе мяккага знака: выпрацаваны аж чатыры варыянты яго пашырэння ў пісьме. Паколькі пытанне асабліва важнае, Камісія і прапануе ўсе чатыры ўвазе тых, хто мае намер прыняць удзел у абмеркаванні правапісу. Усе астатнія прапановы аб зменах у правапісе былі прыняты на пасяджэннях Камісіі аднагалосна ці амаль аднагалосна.**

**Адрасуючыся да грамадскасці, хацелася б нагадаць, што само пытанне аб удакладненні правапісу нашай літаратурнай мовы не надуманае і не кімсьці навязанае, як гэта здаецца, мяркуючы па лістах у Камісію, некаторым шаноўным грамадзянам. Яно ўзнікла таму, што нельга далей пакідаць па-за ўвагай той разнабой у мове друку, радыё і тэлебачання, які выразна абазначыўся і набывае ўсё большыя маштабы. У грамадскай моўнай практыцы ўсталёўваецца свавольства і хаос, што вельмі згубна адбіваецца на агульным узроўні пісьменнасці ў краіне, не кажучы пра тое, што гэта не робіць нам, грамадству і дзяржаве, гонару. Не можа не выклікаць шкадавання, што рэакцыя на палітычную тэндэнцыйнасць рэформы правапісу 1933 года штурхае некаторых грамадзян у другую крайнасць, калі таксама выяўляецца відавочная тэндэнцыйнасць, толькі з процілеглым знакам. А трэба ў гэтай справе кіравацца прынцыпамі навуковасці, эстэтычнасці (мілагучнасці), павагі да традыцый, натуральнасці маўлення, даступнасці авалодання і зручнасці карыстання літаратурнай мовай. Іменна гэтым кіравацца ў размове аб правапісе і заклікае Камісія.**

**Заўвагі і водгукі просім выказаць у друку, а таксама прысылаць у Камісію на адрас: 220016, г.Мінск, вул. К. Маркса, 38, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Тэрмін -- да 1 красавіка 1994 г.**

## ВЫНІКОВЫ ДАКУМЕНТ ДЗЯРЖАЎНАЙ КАМІСІІ ПА ЎДАКЛАДНЕННІ ПРАВАПІСУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

На абмеркаванне грамадскасці выносяцца наступныя варыянты правапісу змякчальнага мяккага знака.

1а. Пашырыць напісанне змякчальнага мяккага знака і даць наступную фармуліроўку п. 26 § 87 "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (Мн., 1959):

"Мяккі знак пішацца перад суфіксам *-ск-* у прыметніках і ўласных імёнах, утвораных ад назоўнікаў, якія канчаюцца мяккім н: *студзеньскі, чэрвеньскі, ліпеньскі, восеньскі, коньскі, Смаргоньскі* (раён), *Быценьскі, Блоньскі, Чэрвеньскі, Любаньскі, "Радуньскі"* (калгас)".

Мяккі знак пісаць таксама пасля прыставак, якія канчаюцца на з, перад *е, ё, ю, я* і націскным *і*: *зьезд зьёрзаць, разьюшаны, зьялчэць, зьінець.*

1б. Пашырыць напісанне змякчальнага мяккага знака і даць наступную фармуліроўку п. 26 (87) "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі":

"Мяккі знак пішацца перад суфіксам *-ск-* у прыметніках і ўласных імёнах, утвораных ад назоўнікаў, якія канчаюцца мяккім *н*: *студзеньскі, чэрвеньскі, ліпеньскі, восеньскі, коньскі, астраханьскі, Смаргоньскі, Быценьскі, Блоньскі, Чэрвеньскі, Любаньскі, "Радуньскі"* (калгас)".

П. 3. § 86 даць у наступнай фармуліроўцы:

"Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных *з, с, ц, дз* перад наступным мяккім зычным: *сьнег, сьнедаць, прозьвішча, барацьбіт, зьвінець, радасьць, сьціхаць, лазьня, зьмена, зьлезьці, цьвік, цьвісьці, цьмяны, дзьверы, дзьве, будзьце, шэсьць, штосьці, ледзьве, пісьменьнік, васьмі, усьміхацца, паўзьверх, паўзьмены, зьява, цьвік, зьехаць, зьява, разьюшыцца, зьёрзаць.*

Мяккі знак пісаць таксама пры абазначэнні мяккіх падоўжаных (падвойных) зычных: *ральля, пытаньне, палозьзе, Палесьсе, свацьця.* Падоўжанае (падвойнае) дз перадаваць пра *ддз*: *суддзя, разводдзе, аддзел.*

Аднак мяккі знак не пішацца:

пасля зычных перад мяккімі *к, г, х*: *скінуць, скіраваць, скірда, маскіроўка, раскідаць, раскілзаць, згіб, разгінаць, разгерметызаваць, схіліць, схіліцца, расхінуць*, а таксама ў словах перад *г, к, х* – пасля цвёрдых зычных: *брызгі, польскі;*

у канцы прыназоўнікаў, якія канчаюцца на з, перад мяккімі зычнымі: *без мяне, без людзей, паўз лес, паўз лінію, з некім, з лесу, з ёй (јой), з імі (јімі);*

паміж літарамі, якімі перадаецца падаўжэнне зычных, а таксама паміж прыставачнымі і карэннымі *с, з*: *насенне, заданне, ралля, галлё, палоззе, калоссе, ліццё, суддзя; ссекчы, ссінець, ссесьціся, рассяліць, бяссільны, бяссьмерце, бяссьледны, бяссьнежны, ззелянець, беззямельны, беззьмястоўны, бяззьменны;* не пішацца мяккі знак пасля *з* у словах *ззяць, ззянне.*

1в. Абазначаць у межах слова памякчэнне зычных *з, с, дз, ц* мяккім знакам *перад мяккімі зычнымі* (акрамя *г, к, х*) і ётавымі галоснымі: *зьвер, лазьня, прозьвішча, сьнег, сьпяваць, у масьле, радасьць, дзьверы,*

1г. Увесці наступнае правіла:

Пісаць мяккі знак для абазначэння мяккіх зычных *з, с, ц, дз* перад наступным мяккім: *сьнег, прозьвішча, радасьць, лазьня, цьвік, дзьверы, будзьце, шэсцьдзесят, штосьці, ледзьве, пісьменнік, васьмю, авоські, паўзьверх, паўзьмены, бязьмежны, зьверху, бесьперапынна, расьпісацца, бесьперсьпектыўнасьць, бязьзьменнасьць;*

пісаць мяккі знак перад суфіксам *-ск-* у прыметніках, утвораных ад назоўнікаў, якія заканчваюцца мяккім *н*: *коньскі, восеньскі, астраханьскі, Любаньскі* (раён), *чэрвеньскі, ліпеньскі, жніверьскі, сьнежаньскі, студзеньскі;*

мяккі знак пісаць таксама пасля прыставак, якія канчаюцца на з, перад *е, ё, ю, я* і націскным і: *зьезд, зьёрзаць, разьюшаны, зьялчэць, зьінець.*

Мяккі знак не пішацца:

перад мяккімі *г, к, х*: *скінуць, згінуць, схіліцца;*

пасля прыназоўнікаў, якія канчаюцца на *з*: *цераз пень, паўз лес, без мяне, з яго, праз сьнег;*

паміж падоўжанымі зычнымі: *зелле, насенне, куцця, ралля, калоссе, разводдзе.*

2. Падпарадкаваць агульнаму правілу правапісу *е, я* ў першым складзе перад націскам напісанне слоў *дзевяты, дзесяты, семнаццаць, васемнаццаць* і *аднакарэнных з імі* і пісаць *дзявяты, дзявятка, дзявяцера, дзясяты, дзясятнік, дзясяцера, сямнаццаць, васямнаццаць, васямнаццаты* і г.д.

Згодна з гэтым правілам пісаць злучальны галосны *е* або *я* ў складаных словах: *вогняўстойлівы, земляўласнік, заходнярускі, зерняўлоўнік, зернясховішча, зернесушылка, своеасаблівы.*

3. Канцавыя спалучэнні асновы *-эр, -эл (ь)* іншамоўных слоў перадаваць у ненацісным становішчы праз *-ар, -ал (ь)*: *ваўчар, ордар, містар, камп'ютар, карцар, світар, шніцаль, шпіндаль, міталь, шпаталь, форталь, Картар, Геншар, Гендаль, Карал.*

4. Напісанне пачатковага ненаціскнога *у ў* запазычаных словах падпарадкаваць агульнаму правілу правапісу *у, ў*: *студэнтам нашага ўніверсітэта, правесці ўніфікацыю, вучнёўская ўніформа, належаў да ўніяцкага веравызнання.*

5. На канцы запазычаных слоў пісаць *іё, ые*, а не *іо, ыо*: *трыё, радыё, рацыё, сальфеджыё, Антоніё, Сільвіё, Рыё-дэ-Жанейра.*

6. Кожную састаўную частку складанаскарочаных слоў пісаць так, як яна пішацца ў адпаведным поўным слове: *гарсавет, сельмаг, прафсаюз, сацпартыя.*

У апошняй частцы некаторых складанаскарочаных слоў можа аднаўляцца этымалагічнае *о*, і тады дапускаецца іх дваякае напісанне: *выканкам і выканком, селькар і селькор, спецкар і спецкор, аграпрам і агрэпром.*

7. Дапускаецца перадача ўзмацняльнай часціцы і злучніка *і* літарай *й*, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *яна і пытаецца -- яна й пытаецца; ды і дадому прыходзіць позна -- ды й дадому прыходзіць позна; будзе свята і на нашай вуліцы -- будзе свята й на нашай вуліцы; бацька і сын -- бацька й сын.*

8. У прыметніках, утвораных ад назоўнікаў іншамоўнага паходжання, у злучэнні *ст* перад суфіксам *-н-* адпаведна літаратурнаму вымаўленню *т* на пісьме не перадаваць: *баласт — баласны, фарпост -- фарпосны, аванпост -- аванпосны, кампост -- кампосны, кантраст — кантрасны.*

9. Ва ўсіх выпадках у прыметніках, у якіх канцавы зычны асновы *к* спалучаецца з суфіксальным *с*, спалучэнне *-кс-* перадаваць праз *ц*: *узбецкі, таджыцкі, каракалпацкі, калмыцкі, гіляцкі.*

10. Спалучэнне *сч*, якое паходзіць *з ск*, перадаваць праз *шч* у словах *пяшчаны, пяшчанік, пяшчанікавы, пяшчанка, пяшчынка, пяшчана, брушчатка, брушчатнік, брушчаты* згодна з літаратурным вымаўленнем.

11. Асабовыя ўласныя імёны пісаць згодна з нацыянальнай традыцыяй, улічваючы пажаданні бацькоў і носьбітаў.

Побач з напісаннямі *Ілля, Ілліч, Іллічоўка, Уляна, Уллянаўскі, Кассян* дапускаецца напісанне *Ілья, Ільіч, Ільічоўка, Ульяна, Ульянаўскі, Касьян.*

Побач з напісаннямі *Жана, Сюзана* дапускаюцца напісанні *Жанна, Сюзанна*, але толькі *Таццяна.*

12. Правілы пераносу слоў сфармуляваць наступным чынам:

1. З аднаго радка ў другі часткі слоў пераносяцца па складах: *са-ро-ка, га-ла-ва, стра-ва, тэ-атр.*

Але:

а) адну літару, хоць яна і ўтварае склад, нельга ні пакідаць, ні пераносіць у новы радок: *аса-ка, ава-дзень.* Некаторыя словы нельга наогул разбіваць пераносам: *Азія, асот.*

б) літары *ў, й, ь,* і *апостраф* нельга адрываць ад папярэдняй літары: *няў-да-ча, слаў-ны, праў-нук, се-наў-бор-ка, вай-ско-вы, няй-на-чай, най-гор-шы, вель-мі, ве-льмі, гуль-ня, гу-льня, кась-ба, ка-сьба, пад'-езд, па-д'езд.*

2. Пры збегу зычных у сярэдзіне слова падзел яго на часткі адвольны: *ся-стра, сяс-тра, сяст-ра; бу-льба, буль-ба; ра-зна-стай-ны, раз-нас-тай-ны; пад-крэ-сліць, па-дкрэс-ліць; спа-ды-спа-ду, спа-дыс-па-ду; мя-сцком, мяс-цком, мясц-ком.*

Нельга разбіваць спалучэнні літар *дж* і *дз*, калі яны абазначаюць адзін гук: *ура-джай, са-джу, ра-дзі-ма, за-дзі-ра.*

**Камісія.**

# "НІКОЛІ НЕ ЗАЙЗДРОСЦІЎ ЛЮДЗЯМ, ЯКІЯ ПАКІНУЛІ САЮ КРАІНУ..."

**Ансамбль "Сябры" любяць на Беларусі. За шчырасць выканання, за пранікнёнасць і лірызм песень. Анатоль Ярмоленка -- мастацкі кіраўнік ансамбля і яго саліст з 1974 года, калі ансамбль быў створаны. Мяккі прыгожы голас спевака зачароўвае. І менавіта, дзякуючы яму, людзі па ўсяму былому Савецкаму Саюзу і ў іншых краінах знаёміліся з беларускай песняй, палюбілі яе. Анатоль Ярмоленка -- народны артыст Беларусі. Увосень мінулага года ансамбль "Сябры" па запрашэнню Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Кліўлендзе ездзіў у ЗША. Дапамагла здзейсніць вандроўку фірма ВІТТ.**

**Наш карэспандэнт сустрэлася з Анатолем Ярмоленкам пасля паездкі ў ЗША.**

*-- Анатоль Іванавіч, вы ездзілі ў Амерыку выступаць?*

-- Так. Асноўнай мэтай нашай паездкі была сустрэча з беларускай дыяспарай, выступленні перад ёю. Выступалі мы і ў ААН. Пелі для амерыканцаў. Змаглі і шмат пабачыць: Нью-Йорк, Чыкага, Ніягарскі вадаспад.

*-- І якое ўражанне пакінула ў вас Амерыка?*

-- Якое можа быць уражанне аб Амерыцы? Адназначна, што гэта вялікая дзяржава і людзі жывуць там, як людзі, нашы землякі ў тым ліку. Амерыканская сістэма самая разумная, хоць і не ідэальная. Нам неабходна ў іх вучыцца.

*-- Што значыць жыць, як людзі?*

-- Ведаю, што мы так не жывём... У нас існуюць толькі бытавыя праблемы. Мы больш думаем пра тое, дзе можна набыць тое-сёе, што з'есці, чым пра выхаванне дзяей, іх адукацыю. У Амерыцы, калі ты чагосьці варты, -- табе будуць плаціць столькі, каб ты мог жыць дастойна і мець магчымасць паклапаціцца пра сваіх дзетак. Дзеці на Беларусі сёння растуць толькі з жывёльнымі інстынктамі. Ніхто не клапоціцца пра іхнюю душу. Але ад іх жа калісьці будзе залежаць лёс беларускай дзяржавы.

*-- Нашыя землякі ў ЗША падаліся вам больш амерыканцамі ці беларусамі?*

-- Гэта даволі складана вызначыць. Многія з эмігрантаў першай хвалі лічаць сябе рускімі. Тыя, хто ад'язджаў з Беларусі падчас Вялікай Айчыннай вайны, ці тыя, каго вывозілі адсюль дзецьмі, змаглі зберагчы любоў да Беларусі, яе мову. Людзі гэтыя -- беларусы. І трэба бачыць, з якой пяшчотай ставяцца яны да ўсяго беларускага. Захоўваюць беларускія цацкі, вышыванкі. У мастачкі Надзеі Кудасавай нават персанальны нумар машыны з літарамі, якія складваюцца ў слова "лянок". Дзеці гэтых людзей -- больш амерыканцы, чым іх бацькі, а ўнукі ўжо наогул амерыканцы. І гэтаму шмат прычын. Адна з іх -- наша дзяржава мала клапоціцца пра сваю дыяспару. Маладыя людзі не разумеюць, навошта ім веданне беларускай мовы, гісторыі і культуры, калі гэта не запатрабавана беларускай дзяржавай. Яны могуць справядліва заўважыць сваім бацькам: ну і што з таго, што вы захавалі сваю мову, песні? Гэта ж нікому на Беларусі не патрэбна. Сярод беларусаў у Амерыцы шмат добрых і цікавых людзей. Я з вялікай удзячнасцю ўспамінаю Сяргея Карніловіча, светлая яму памяць. Шчыра дзякую сям'і Літаровічаў, у якіх мы жылі, і ўсім, з кім мы сустракаліся там.

*-- Ці мае, на ваш погляд, беларуская дыяспара патэнцыял, каб выжыць, зберагчы сваю адметнасць?*

-- Калі Беларусь не будзе клапаціцца пра сваю дыяспару, яна растворыцца. Дзеці эмігрантаў павінны ганарыцца дзяржавай, якую іх бацькі чакалі і дачакаліся нарэшце. Але мала сказаць: "Жыве Беларусь". Трэба, каб яна жыла і стала цывілізаванай краінай і эмігрантам захацелася сюды прыехаць. Мы павінны выкарыстоўваць магчымасці нашай эміграцыі. Там многа адукаваных людзей. Яны ўмеюць весці справу так, як мы не навучаны. Дыяспара -- інтэлектуальны патэнцыял Беларусі. Пакуль да іх прыязджаюць і толькі просяць грошы. Яны ж не павінны нам іх даваць. Гэта наша дзяржава павінна ім плаціць за тое, што яны не маглі вярнуцца дадому з чужыны. Беларуская дыяспара -- гэта людзі, якія цяжкай працай у чужой краіне змаглі здабыць сабе павагу і стаць на ногі.

*-- Наша дыяспара ў ЗША папаўняецца ў апошнія гады эмігрантамі з Беларусі. Сярод творчай інтэлігенцыі таксама назіраецца ад'езд у Амерыку: паехала Валянціна Пархоменка, напрыклад, сям'я музыканта Паўлаўца. Што вы думаеце на гэты конт?*

-- Я ніколі не зайздросціў людзям, якія пакідалі сваю краіну. Нават калі ў іншым месцы яны добра ўладкаваліся. Не магу сказаць, што ўсе тыя, каго я ведаў на Беларусі, апынуўшыся ў Амерыцы, згубілі нешта чалавечае. Наадварот, многія нешта прыдбалі. На Беларусі кожны, нават знаны артыст, ходзіць, як голы кароль. Ён павінен і пра інструменты дбаць, і сцэнічную вопратку сабе шыць, і артыстам заставацца. Там галоўнае -- добра спяваць.

*-- Ці не хацелі б вы паехаць адсюль таксама?*

-- Праўду казаць, я нават не думаў пра гэта ніколі. Можа, я і змог бы жыць там, не прапаў бы. Хоць многім нашым людзям за мяжой усё ж цяжкавата. Там усё так добра, аж да немагчымасці, да адчування, што чагосьці не хапае.

*-- Якую праграму вы вазілі ў ЗША?*

-- Часта здараецца, што выканаўца на Беларусі грае сучасную музыку, а за мяжу вязе народныя спевы. Мы ж спявалі там тыя ж песні, з якімі выступаем на Беларусі — і сучасныя, і народныя.

*-- Што для вас беларуская эстрада?*

-- Гэта маё жыццё. На жаль, з ёю адбываецца сёння тое ж, што і з людзьмі. З'яўляецца шмат непрафесіяналізму. Густ бізнесменаў цяпер, як правіла, — асноўны крытэрый выбару акцёраў для выступленняў. А большасць нашых бізнесменаў у Кембрыджы ці хаця б у нашых універсітэтах не вучыліся. Таму і ўзровень эстрадных выканаўцаў не такі высокі, як хацелася б. Каб неяк паўплываць на сітуацыю, я і займаюся з маладымі артыстамі ў сваёй студыі, выхоўваю ў іх павагу да гледача, да сваёй прафесіі.

**Гутарыла Алена СПАСЮК.**

*КОЛЬКІ КАШТУЕ ТАЛЕНТ*

# АХ, ВАР'ЕТЭ, ВАР'ЕТЭ...

"Гэты нумар не зможа паўтарыць ужо ніхто!" -- упэўнена гаворыць Таццяна Бандарчук і паказвае мне фотаздымак, на якім яна, лёгкая і зграбная, як статуэтка, стаіць на пуанце на далоні свайго мужа. Нумар называўся акрабатычны дуэт, а здымак гэты зроблены на віле Маргарэт Тэтчэр, дзе яны выступалі ў 1986 годзе. Гартаю старонкі альбома далей і бачу твары Амаяка Акапяна, Алега Папова, Юрыя Нікуліна, сярод якіх шчасліва ўсміхаецца прыгожая жанчына, што зараз сядзіць насупраць мяне. У цырк Таццяна прыйшла без спецыяльнай падрыхтоўкі -- "трошкі гімнастыкі, трошкі вялікага тэніса і тры гады балета з траўмай нагі" -- так пра сябе расказвае яна сама. Але ж было ў яе тое, чаму нельга навучыцца ні ў адным цыркавым вучылішчы, -- жаданне працаваць і неверагодная любоў да гэтай прафесіі. Артысты здаваліся ёй багамі, якія лёталі высока пад чароўным купалам і з усмешкамі рабілі немагчымае. А галоўнае -- было ў яе тое, без чаго ў цырку няма чаго рабіць: кураж -- адсутнасць страху, вясёлы азарт і адчуванне бясконцага свята ад неймаверна цяжкай працы. Мабыць, таму ўсё і атрымлівалася, таму і пісалі замежныя газеты пра "выдатную Таццяну Бандарчук, якая ў бікіні з золата непаўторна танцавала на далоні свайго мужа". Дзе яны былі? Ды паўсюль, акрамя Азіі і Амерыкі, ездзілі па ўсяму свету, пакуль жыццё і абставіны не склаліся так, што Таццяна выйшла на пенсію і вярнулася дамоў, сюды, у Мінск. Але калі пасля маіх слоў пра пенсію вы дазволілі сабе бестактоўнасць уявіць жанчыну з адбіткам гадоў на твары, з няспрытнымі рухамі і нязграбнай фігурай -- вы памыліліся, бо цыркавы артыст мае права пайсці на пенсію маючы ўсяго 20, а зараз усяго 15 гадоў стажу. Тым больш, што Таццяна магла бы яшчэ выступаць і выступаць (і робіць гэта), але ж цырк пакідала з дакладна вызначанай мэтай -- зрабіць у Мінску шыкоўнае, цікавае, прыгожае -- словам, сапраўднае вар'етэ. Ідэя была выдатная, яе падтрымалі многія Таццяніны сябры, і цэлая група добрых артыстаў апынулася ў Мінску. Што артысты сапраўды былі выдатныя, сведчыць хаця б тое, што большасць з іх зараз з вялікім поспехам выступаюць на Захадзе. Але ж чаму не ў Мінску? -- запытаецеся вы. Напэўна, таму, што тут яны нікому не былі патрэбны. Міністр культуры, да якога Таццяна звярнулася з прапановай зрабіць сапраўднае шоу і з просьбай аб дапамозе, сказаў: "У нас ёсць оперны тэатр і цырк, а вар'етэ што -- рэстаран? Дык там і так весела". -- "А як жа Мулен-Руж, нацыянальны гонар французаў, -- слаба запярэчыла Таццяна, -- а "Юрас Пэрле", куды ў былыя часы прыязджалі з усёй краіны? Лас-Вегас шоу? "Лідо?" "Максім"?

Уласна мне чамусьці падаецца, што любы наш чыноўнік ад культуры, апынуўшыся за мяжою, з задавальненнем наведаў бы любое з вышэйпералічаных вар'етэ. Шкада, што нікога з іх не натхняе ідэя зрабіць нешта падобнае тут, дома. Увогуле, як вы ўжо маглі здагадацца, Таццяніну ідэю не падтрымалі, і артысты, якія некалькі месяцаў не атрымлівалі зарплату, сталі згаджацца на замежныя кантракты. Сапраўдныя майстры з непаўторнай індывідуальнасцю, артысты, што маглі б зрабіць гонар лепшым шоу свету (так!), хаваючы вочы, прасілі прабачэння і ад'язджалі за мяжу працаваць за долары і на больш выгадных умовах. У гэты ж час з'явіўся ў Мінску сірыйскі менеджэр, які прапанаваў танцавальнай групе Таццяны кантракт на выступленні ў Дамаску ў пяцізоркавым атэлі і сямейных клубах. Доўгага роздуму не было: не патрэбны тут, на радзіме, -- будзем працаваць там. І не пашкадавалі. За першым кантрактам пайшлі іншыя прапановы, выдатная рэклама, знятыя для сірыйскага тэлебачання кліпы... Увогуле, гастролі працягваліся амаль год. Толькі што вярнуліся пасля выступлення ў Германіі, у лютым артыстаў чакае Італія...

-- Скажыце, як вы сябе адчуваеце за мяжой -- сапраўднымі артыстамі ці "рускімі", якіх для экзотыкі запрасілі ў вялікую праграму?

-- Ведаеце, калі быў яшчэ Саюз, мы адчувалі сябе -- і былі! --лепшымі ў свеце артыстамі лепшага ў свеце цырка і балета. Нас сустракалі выдатна, мы спускаліся з трапа самалёта, як зоркі першай велічыні. Глядзець на нашы выступленні прыходзілі ўсе першыя асобы дзяржаў, дзе даводзілася бываць, іншым разам выходзілі на арэну і вачам не верылі, убачыўшы, якія там гледачы. А зараз... Зараз мы засталіся тымі ж выдатнымі артыстамі, толькі самымі нізкааплатнымі ў свеце. Так, раней мы таксама працавалі за грашы, хаця за нашы выступленні дзяржава атрымлівала астранамічныя сумы. Але дзе яны? Ніколі не забуду чамаданы з каўбасой і тушонкай, якія суправаджалі нас па свету. Зараз попыт на нашых артыстаў вялікі, але мы самі "збілі" цану, бо ўсяму свету расказалі пра сябе, якія мы бедныя і няшчасныя, бо нейкія прайдзісветы арганізоўваюць групы з прафесійна цалкам не падрыхтаваных дзяўчат, якія згодныя на любыя ўмовы працы за любую цану. І народны танец яны выконваюць не ў нацыянальным касцюме -- у трусіках... Праблемы ўзнікаюць і з маімі дзяўчынкамі, якія танцуюць у нашым вар'етэ. За мяжу! Толькі за мяжу! За любыя грошы -- ці грошы там, а не тут. У кожнай -- свае прычыны, але ж не настолькі сур'ёзныя, каб кінуць усё і бегчы, куды паклічуць, толькі б не застацца тут.

Калі Таццяна становіцца сумнай, яна здаецца вельмі маленькай, разгубленай і безабароннай. Ну ніяк не зразумець ёй, чаму, калі яна паведамляе сваім дзяўчатам, што яны едуць працаваць у Італію, тыя пачынаюць сварыцца з-за таго, што кантракт не на доўгі тэрмін, ды і аплата (вельмі неблагая з любога пункту гледжання) іх таксама не задавальняе. "Мы што, прыгажосцю Італіі захапляцца туды едзем? -- абураюцца яны. -- Ну і што, што Венецыю пабачым, і што такога дзіўнага ў тым Рыме?!" -- паціскаюць яны плячыма.

-- Вось гэта ў іх для мяне самае страшнае, гэтага я не магу зразумець, -- гаворыць Таццяна. -- Я таксама думаю, што любы чалавек мае права на добрыя ўмовы жыцця, я толькі супраць таго, каб -- любой цаной. Не, не падумайце чаго: я іх вельмі люблю. Магу ўсю ноч сама шыць касцюмы, прынесці раніцай на рэпетыцыю, і калі яны ахнуць -- адкуль такі цуд? -- адказаць: "З Парыжа!" Мне прыемна самой бліскаўкі на сукенку прышываць, хочаце -- верце, хочаце -- не. Што ж тычыцца маіх дзяўчынак -- я суцяшаю сябе тым, што яны -- іншыя. Не лепшыя, не горшыя, а проста адрозніваюцца ад нас, тых, хто гадоў дзесяць таму быў гатовы працаваць за апладысменты і бляск вачэй гледачоў.

І, напэўна, нельга іх за гэта вінаваціць, бо ўмовы жыцця з таго часу таксама змяніліся. І што можна сказаць тым жа дзяўчынкам, якія, прыехаўшы на Захад, бачаць, як у адным з імі вар'етэ, у адной праграме выступаюць куды горш падрыхтаваныя замежныя артысты з менш цікавымі нумарамі, а атрымліваюць у многа разоў больш? Ці трэба здзіўляцца таму, што Таццяне ўсё часцей і часцей хочацца кінуць гэтую справу, узяць хулахупы і, узнавіўшы свае нумары, заключыць выгадны кантракт на Захадзе і паехаць зарабляць грошы.

-- Тады што спыняе? -- пытаюся я і бачу, як загараюцца яе вочы.

-- Мне прыемна бачыць твары людзей, якім падабаецца тое, што мы робім,-- адказвае Таццяна Бандарчук. -- Я да гэтага часу, калі раптам у галаву новы нумар прыходзіць, адчуваю камяк ў горле і кідаюся ўсім пра яго расказваць. Я люблю гэта ўсё! -- гаворыць яна.

І я разумею, што не трэба шукаць больш ніякіх прычын таго, што гэта маленькая жанчына гатова аддаць усе сілы, час, талент справе, якая многім здаецца, мякка гаворачы, несур'ёзнай. Ну што ж, каб у Таццяны Мікалаеўны ўсё атрымалася, трэба зусім нямнога -- каб мы перасталі быць для Захаду бясконцым рынкам таннай працоўнай сілы, каб нашы артысты пачалі ў рэшце рэшт у сябе дома атрымліваць столькі, колькі ім плацяць зараз у Турцыі і Сірыі, і каб да мастацтва ў роднай краіне пачалі ставіцца з павагай, нават калі гэта і вар'етэ --- жанр, не вельмі сур'ёзны, але ж вельмі вясёлы і прыгожы.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



**НА ЗДЫМКУ: Таццяна БАНДАРЧУК.**

# ЧЫРВОНЫ СТРУМЕНЬ СВАБОДЫ

**(Валерый УРУБЛЕЎСКІ)**

Радзіма была за сотні вёрстаў, за многімі кардонамі. І ўсё-такі Урублеўскі хоць зрэдку знаходзіў спосабы падтрымліваць сувязі з родным краем. У сваякоў Урублеўскага захавалася яго запіска да цёткі Эміліі Урублеўскай, датаваная восенню 1871 года, з просьбай перадаць яго новы лонданскі адрас матцы, якая жыла тады ў вёсцы на Гродзеншчыне. Быў дом на Беларусі, дзе заўсёды яго помнілі і чакалі, было аконца на далёкай радзіме, якое заўсёды свяцілася для яго незгасальным святлом...

Урублеўскі марыў, каб голас Інтэрнацыянала пачулі ў Расіі, Польшчы, на Беларусі. І ў гэтых адносінах рабіліся практычныя крокі.

У кастрычніку 1871 года вядомы царскі агент Балашэвіч-Патоцкі, якому ўдалося завязаць кантакты з дзеячамі Інтэрнацыянала, паведамляў у Пецярбург: "У канцы верасня адбыўся пад кіраўніцтвам Маркса сход членаў (Інтэрнацыянала), на якім вырашана:

арганізаваць на тэрыторыі Расіі наступныя секцыі: у Пецярбургу, Маскве, Ніжнім Ноўгарадзе і Казані, у Віцебску, Вільні і Гродне, у Кіеве, Адэсе і на Каўказе, у Варшаве, Сувалках і Плоцку". У пераліку звяртаюць на сябе ўвагу беларускія гарады.

Праз паўгода -- новае агентурнае данясенне з Лондана: "Паводле парады Урублеўскага, утварылася тут польская секцыя Інтэрнацыянала, запісалася каля 30 членаў... Секцыя ўтворана для арганізацыі кантактаў з Расіяй і заходнімі губернямі і пашырэння там прапаганды".

У 1876 годзе спынілі дзейнасць І Інтэрнацыянал і "Люд польскі". Урублеўскі стаў нудзіцца ў Лондане. Усё часцей выязджаў ён на кантынент, а ў другой палове 1877 года канчаткова пакінуў англійскую зямлю.

Спачатку Урублеўскі знайшоў прытулак у Жэневе, дзе падтрымліваў кантакты са сваім земляком Антонам Трусавым, з рускімі рэвалюцыянерамі-народнікамі П. Лаўровым і П. Ткачовым.

1878 год. Народнікі-землявольцы пераходзяць да актыўных, баявых дзеянняў супраць царызму. У многіх гарадах Расіі гучаць стрэлы. Праўда, гэта адзіночныя стрэлы тэрарыстаў. Знішчаюцца асобныя найбольш драпежныя жандары і губернатары, здраднікі. Рэвалюцыянеры аказваюць узброенае супраціўленне пры арышце. У жніўні ў Пецярбургу забіты сам шэф жандараў Мезенцаў. Гэта было нешта новае, што глыбока ўсхвалявала і зацікавіла Урублеўскага. Ён насцярожыўся, як стары баявы конь, пачуўшы прызыўны гук трубы. Ці не наспявае ў Расіі рэвалюцыя? Ці не спатрэбіцца там яго вопыт?..

Яму ўжо ішоў пяты дзесятак. Узрост, калі нельга папракнуць у маладой безразважнасці. І ўсё-такі Урублеўскі рашаецца на ўчынак, які цяжка назваць абачлівым. Чалавек, двойчы прысуджаны да пакарання смерцю, збіраецца ехаць у царскую Расію -- у самае жандарскае пекла. Можна ўявіць сабе радасць царскіх улад, усёй чыноўна-паліцэйскай зграі, калі б удалося схапіць палкоўніка "мяцяжу" 1863 года і генерала Парыжскай камуны!

Ён пераапрануўся афіцэрам, раздабыў дакументы на чужое імя. І вось кардон ззаду, Урублеўскі зноў у Расіі, якой ён не бачыў пятнаццаць гадоў.

Генерал пабываў у Адэсе, Пецярбургу, які добра помніў яшчэ з часоў студэнцтва. Стукаўся ў дзверы канспіратыўных кватэр, паціскаў рукі маладых барацьбітоў з тыраніяй, углядаўся ў твары рэвалюцыянераў-землявольцаў. Расказваюць, што ён бачыўся з А.Жалябавым, знаёміўся з планамі царазабойцаў. Ён вярнуўся, поўны здзіўлення і пашаны да гэтай невялікай кучкі самаахвярнай, высакароднай моладзі, якая смела кінула выклік моцнаму яшчэ царызму. Ён прывёз з сабою ў Жэневу і расчараванне: народ не ішоў пакуль што за рэвалюцыянерамі-інтэлігентамі, да народнай рэвалюцыі ў Расіі было пакуль што далёка.

З часам французскі ўрад па патрабаванню народа быў вымушаны аб'явіць амністыю ўдзельнікам Парыжскай камуны. У 1885 годзе Урублеўскі вярнуўся ў Францыю. Дзесяць гадоў пражыў ён у Ніцы, курортным горадзе на беразе мора. Адсюль раз-пораз наведваўся ў Парыж.

Для яго Ніца не была курортам. Кавалак хлеба Урублеўскі зарабляў тады цяжкай працай падзёншчыка-малатабойца. І гэта -- з пакалечанай рукой, з застарэлымі ранамі. Відавочца расказваў: "...Бывалі дні, калі ён нічога не зарабляў, бо не мог падняць молат... Моцны, мабыць, у яго боль, калі ён расстаецца з молатам, таму што калі не куе, то і не есць... Калі аднойчы боль у яго не спыняўся два тыдні, прыйшоў у абед да мяне пазычыць трохі солі і перцу для перамены, як ён сказаў. Я запрашаў яго абедаць -- не згадзіўся... Вось горды... і моцны літвін".

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 50-52, 1-2, 4-5 (1994 г.).**

## З ГІСТОРЫІ ФІЛАТЭЛІІ

# РОДАМ З БЕЛАРУСІ

У пяцітомным выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі пра географа і падарожніка, выхадца з Беларусі М. Пржэвальскага няма ніякіх звестак. З энцыклапедычнага даведніка "Мінск" і кнігі "Іх імёнамі названы..." можна даведацца крыху, у тым ліку пра тое, што ў Мінску імем М. Пржэвальскага ў 1954 годзе была названа вуліца і што ёсць такая вуліца і ў Магілёве. Больш цікавыя звесткі пра М. Пржэвальскага можна знайсці ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Мінску. Тут захоўваюцца дакументы аб тым, што ў 1891 годзе Рускае геаграфічнае таварыства заснавала сярэбраны медаль і прэмію імя М. Пржэвальскага і што сродкі на іх заснаванне збіраліся ўсенародна ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, што пасля заўчаснай смерці М. Пржэвальскага ў 1888 годзе былі праведзены пошукі радаслоўнай падарожніка, таму што яго цёзкі па прозвішчу пражывалі ў Віцебскай губерні. Гэтыя пошукі ўвянчаліся поспехам. Быў знойдзены вопіс маёмасці Карнілы Анісімавіча Пераральскага (Прэвальскага), якая знаходзілася ў вёсцы Тумішчавічы Віцебскага ваяводства. Карніла Анісімавіч Прэвальскі атрымаў пры Стэфане Баторыі "за аказаныя заслугі ў казацкіх войсках" шляхецкае званне. У 1823 годзе бацька М. Пржэвальскага -- Міхаіл Казіміравіч Пржэвальскі атрымаў атэстат аб дваранскім паходжанні роду. У гэтым дакуменце было сказана, што род Пржэвальскіх вядзе свой пачатак ад Анісіма Прэвальскага. Ён меў сына Карнілу, які вызначыўся ў казацкіх войсках пад Полацкам і Вялікімі Лукамі, за што ў 1581 годзе кароль Стэфан Баторый надаў яму дваранскае званне. У 1818 годзе Віцебскі дваранскі дэпутацкі сход прызнаў род Пржэвальскіх дваранскім і ўнёс яго ў радаслоўную кнігу. Як бачым, продкі генерал-маёра М. Пржэвальскага беларускага паходжання. На жаль, у энцыклапедыі аб гэтым пакуль няма згадкі. Як і, на жаль, няма пакуль ніякіх выпускаў пошты нашай рэспублікі пра М. Пржэвальскага. Таму я раскажу аб выпусках пошты былога СССР, звязаных з імем М. Пржэвальскага.

У студзені 1947 года, адзначаючы 100-годдзе Геаграфічнага таварыства СССР, пошта выпусціла серыю марак, дзве з іх былі прысвечаны нашаму земляку. На мініяцюрах быў дадзены партрэт выдатнага падарожніка і даследчыка Цэнтральнай Азіі і статак дзікіх коней, адкрытых ім. У 1964 годзе быў выдадзены мастацкі канверт з партрэтам вучонага на фоне гор і помніка на яго магіле. Акрамя гэтых дзвюх марак і канверта, ёсць яшчэ шэраг паштовых выпускаў, па якіх можна прасачыць жыццё і дзейнасць М. Пржэвальскага.

Будучы падарожнік і даследчык нарадзіўся ў сакавіку 1839 года ў вёсцы Кімбарава (Пачынкаўскі раён) Смаленскай губерні ў сям'і ваеннаслужачых. Цяпер гэтае сяло не існуе, на месцы, дзе стаяў дом Пржэвальскіх, устаноўлены мемарыяльны знак.

У 1849 годзе М. Пржэвальскі паступіў вучыцца ў Смаленскую гімназію, якую скончыў у 1855-м. У 1862 годзе М. Пржэвальскі быў прыняты ў акадэмію Генеральнага штаба ў Пецярбургу. Ужо ў час вучобы ім была напісана работа "Военно-статистическое обозрение Приамурского края", за што быў выбраны членам Рускага геаграфічнага таварыства. У 1867 годзе Пржэвальскі пазнаёміўся са старшынёй аддзялення фізічнай геаграфіі П. Сямёнавым-Цян-Шанскім, што ў многім вызначыла лёс М. Пржэвальскага.

У пачатку чэрвеня 1867 года Пржэвальскі адправіўся ў сваё першае падарожжа па Усурыйскім краі. З лістапада 1873 па верасень 1873 ён здзейсніў сваё другое падарожжа ў Манголію, Кітай і Тыбет. У час трэцяга падарожжа Пржэвальскім быў адкрыты сцінкавы гекон, затым названы яго імем. У 1972 годзе пошта Манголіі прысвяціла марку гэтаму гекону. У красавіку 1879 года Пржэвальскі адправіўся ў сваё чацвёртае падарожжа, у час якога ім быў выяўлены статак дзікіх коней, затым адкрыты ім конь быў названы канём Пржэвальскага. У 1959 годзе пошта СССР выпусціла марку з яго адлюстраваннем. Конь Пржэвальскага паказаны на марках Балгарыі, Чэхаславакіі, Польшчы, Манголіі, Афганістана.

У чэрвені 1881 года М. Пржэвальскі купіў сабе маёнтак у Слабадзе Парэцкага павета (цяпер Дзямідаўскі раён) Смаленскай губерні. Сяло Пржэвальскае і возера Сапшо, на беразе якога раскінулася сяло, паказаны на паштовым канверце 1974 года.

У лістападзе 1883 года М. Пржэвальскі адправіўся ў падарожжа ў Цэнтральную Азію. У ім удзельнічаў ураджэнец Смаленшчыны П. Казлоў, якому прысвечаны марка і канверт.

У пачатку пятай экспедыцыі ў Цэнтральную Азію М. Пржэвальскі захварэў на брушны тыф і 20 кастрычніка (1 лістапада) 1888 года памёр у горадзе Караколі. Пржэвальскі быў пахаваны на беразе возера Ісык-Куль. 11 сакавіка 1889 горад Каракол быў перайменаваны ў Пржэвальск. 16 ліпеня 1969 года горад гэты адзначыў сваё стагоддзе. У гонар гэтай падзеі былі выдадзены два мастацкія канверты, на адным з якіх паказаны музей Мікалая Пржэвальскага, на другім -- гранітны помнік на магіле вялікага падарожніка. Юбілей горада адзначаўся спецгашэннем. Восенню 1892 года ў Пецярбургу па праекту А. Більдэрлінга быў пастаўлены помнік-бюст М. Пржэвальскага перад будынкам Рускага геаграфічнага таварыства ў Александраўскім садзе каля Адміралцейства. Ля падножжа помніка -- фігура ўючнага вярблюда. У 1958 годзе быў выпушчаны канверт з адлюстраваннем гэтага помніка.

У 1989 годзе 150-гадовы юбілей М. Пржэвальскага быў адзначаны выпускам канверта з арыгінальнай маркай, на якой -- партрэт падарожніка. На малюнку канверта -- экспедыцыя на ўючных вярблюдах і карта падарожжаў М. Пржэвальскага.

З апісаных вышэй паштовых выпускаў розных краін, а таксама іншых паштовых выданняў, што адносяцца да гэтай тэмы, можна скласці цікавы філатэлістычны расказ аб нашым земляку, выхадцу з Беларусі, вядомым падарожніку, географе і даследчыку Мікалаі Пржэвальскім.

**Леў КОЛАСАЎ.**




**Мастацкі канверт з партрэтам М. ПРЖЭВАЛЬСКАГА (выдадзены ў 1964 годзе).**

# ЧЫРВОНЫ СТРУМЕНЬ СВАБОДЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Цікава, што і ў гэтых цяжкіх умовах Урублеўскі думаў аб працягу рэвалюцыйнай работы. Хворы, ужо ў гадах, ён не лічыў сябе дэмабілізаваным. І часам нешта нават рабіў, хоць гэта было ўжо так нямнога, што ён сам ставіўся да зробленага іранічна. Летам 1890 года Урублеўскі пісаў Энгельсу: "Ну вось, я ўжо вярнуўся (не менш як тры разы начаваў пад адкрытым небам на мяжы Польшчы)". Ён марыць пра рэвалюцыйнае "жніво ў Літве", піша сябрам, што "пара пачаць работу ў нашай краіне".

Праз некаторы час пераехаў у Парыж, дзе ўладкаваўся ў газету дробным служачым. Ён зноў хадзіў па тых памятных сэрцу мясцінах, дзе чвэрць стагоддзя назад вадзіў на ворагаў гераічныя батальёны федэратаў. Ён быў ужо стары і сівы, а па-ранейшаму туліўся абы-як у цесным пакойчыку, у якім, апрача ложка, нічога не было. Наведвальнік апісвае яго так: "...У нас, што стаялі ў дзвярах, упіліся чорныя вугольчыкі вогненных вачэй. У поглядзе было нешта падобнае на драпежную птушку; з рукой, абвіслай ад шабельнага ўдару, ён выглядаў быццам арол са зламаным крылом, які страціў у навальніцу пёры і сілы..." Ёсць і фотаздымак з гэтых часоў: нейкі клятчасты халат, сівая барада, Урублеўскі неяк сцяўся, нахіліўся набок ці то ад холаду, ці ад болю. Сапраўды -- арол са зламаным крылом.

Толькі ў 1901 годзе французскі ўрад, у складзе якога былі людзі, блізкія да сацыялістаў, прызначыў Урублеўскаму пенсію.

Апошнія гады жыцця Урублеўскі правёў у нязвыкла спакойнай і ўтульнай абстаноўцы, пасяліўшыся ў сям'і свайго земляка і былога камунара доктара Гяршынскага, які меў домік ва Уарвілі непадалёк ад Парыжа. У 1871 годзе доктар Гяршынскі быў сведкам геройскай смерці Яраслава Дамброўскага. І вось здарылася так, што таму ж самаму Гяршынскаму давялося стаць таварышам апошніх дзён жыцця другога славутага генерала камуны.

Урублеўскі прыкметна слабеў, але не пераставаў цікавіцца падзеямі ў свеце, развіццём вызваленчага руху. Ён любіў паўтараць радкі з верша польскага паэта Адама Асныка, удзельніка паўстання 1863 года:

**Хай ворагі ціснуць і страшаць,**<br>
**Наш кліч баявы чуцён:**<br>
**За нашу свабоду і вашу!**<br>
**За брацтва будучых дзён!**

У 1900 годзе сын доктара Гяршынскага выдаў у Парыжы маленькую брашурку пра Урублеўскага, заснаваную на расказах генерала. У ёй згадваюцца Каліноўскі, "Мужыцкая праўда".

У гэтай брашуры чытаем: "Сёння ён (Урублеўскі) самотны, бо таварышы яго паўміралі, паснулі вечным сном дзе-небудзь у літоўскіх лясах або на бруку Парыжа,.. мроіць пра мінулую барацьбу, пра лясы на берагах Нёмана, дзе прайшлі гады яго баявога юнацтва. Самыя суровыя буры не здолелі схіліць яго гордага чала, расчараванні ніколі не пранікалі ў яго гераічныя грудзі".

5 жніўня 1908 года генерал памёр.

З ім скончылася цэлая эпоха. Ён быў апошнім з кагорты вялікіх рэвалюцыянераў XIX стагоддзя.

Пахаваны слаўны паплечнік Каліноўскага ў Парыжы на вядомых могілках Пер-Лашез, ля Сцяны камунараў. У апошні шлях легендарнага генерала камуны праводзілі тысячы парыжан. Пакрытую чырвоным сцягам труну правезлі па месцах былых баёў і спусцілі ў магілу пад гукі "Марсельезы" і "Інтэрнацыянала". Над труной прагучалі развітальныя прамовы ад польскай і расійскай сацыял-дэмакратыі (вельмі маладая беларуская сацыял-дэмакратыя яшчэ не мела сваёй эміграцыі).

Сёння Урублеўскага помняць і ў нас -- на яго радзіме. Свае творы генералу свабоды прысвяцілі А.Вярцінскі, А.Зарыцкі, А.Русецкі. Цікавае рамантычнае паданне захавалася ў сям'і вязніцы гітлераўскіх і сталінскіх лагераў жыхаркі Слоніма Яўгеніі Дзмітрыеўны Урублеўскай-Ягоравай. Яна сцвярджае, што з'яўляецца прамой праўнучкай Валерыя Урублеўскага, "унучкай яго адзінароднага сына Антона". Гэта нібыта пазашлюбны сын Валерыя (генерал за баявымі справамі так і не сабраўся ажаніцца, прынамсі дакументальна аформіць, засведчыць пэўныя адносіны), прызнаны і ўсыноўлены сваякамі. Гэтую гісторыю я пачуў упершыню ад непараўнальнага знаўцы роднай Гродзеншчыны, пісьменніка і мужнага чалавека Аляксея Карпюка. Ён жа даў мне ў свой час адрас Я.Урублеўскай-Ягоравай. У лістападзе 1987 года яна пісала мне: "Усю гэтую сумную сямейную гісторыю я ведаю ад майго бацькі Дзмітрыя Антонавіча Урублеўскага... Аніякіх дакументаў у мяне няма, наша сям'я ва ўсе часы была ганімая, і ўсё згублена для нас і для гісторыі таксама".

Але сямейнае паданне, ашчадна данесенае праз многія пакаленні, з'яўляецца для гісторыкаў таксама каштоўным і важным сведчаннем часу, своеасаблівым гістарычным фактам, які мы абавязаны зафіксаваць і рупліва перадаць нашчадкам.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.158. Падпісана да друку 7. 2. 1994 г.